# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА



1930 г. - ЧЭРВЕНЬ - № 2·13

# „СТУДЭНСКАЯ ДУМКА“

**(год выданьня 6 ты).**

**Часопісь беларускага Студэнства**

ад пачатку 1930—31 акадэмічнага году (з м. верасьня) пачынае выходзіць акуратна кожны месяц. Для выкананьня гэтага пляну апрача нашых стараньняў патрэбная такжа помач беларускага грамадзянства.

Дзеля гэтага зьвяртаемся з гарачым заклікам да беларускага грамадзянства з просьбаю падтрымаць нас матэр'яльна шляхам прысыланьня сталае падпіскі на выдавецкі фонд „Сдтуэнскае Думкі.“

Падпісная цана на 1 год 9 зл. Прысылаць можна часткамі.

**Рэдакцыя**

**„Студэнскае Думкі“**

**Вільня, Віленская вул. № 8-3**

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

**Грамадзка-навуковая і літэратурная часопісь Беларускага Студэнства.**

„STUDENTEN GEDANK“

Die Zeitschrift der Weissruthenischen Studentenschaft.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: ВІЛЬНЯ, Віленская вул. 8—3. | Adresse der Redaktion: Wilno, Wilenska 8 — 3.

№ 2 (13) | ЧЭРВЕНЬ 1930 г. | ГОД 6.

* * *

Мы ў перамогу верым ўсе —
Яшчэ ніхто ня змог ідэі —
Няхай наш край і ўполусьне,
Час гэты полусон разьвее.

Ніхто ня згубіць з нас надзеі,
З нас кожны сны сьніць аб вясьне,
Мы ў перамогу верым ўсе —
Яшчэ ніхто ня змог ідэі. —

*А. Б.*



Група дэлегатаў на V Гадавы Юбілейны Зьезд Аб'еднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў („АБСА“,) у Празе Чэскай дня 4 студзеня 1930 г.

С. КАЛІНА.

# ПРАЗ ГРАМАДЗКУЮ ПРАЦУ ДА БУДУЧЫНІ!

Беларускі адраджэнскі рух у меру свайго разьвіцьця і што раз больш набліжаючыхся патрэбаў, выкліканых тымі абставінамі, у якіх мы зьяўляемся сяньня, заўсёды вымагаў умелага і вытрывалага кіраўніцтва з боку нашае інтэлігенцыі, кіраўніцтва, будучага на вышыні сваіх заданьняў. Аднак мімавольна трэба прызнаць, што нашая інтэлігенцыя ня ўсілах была справіцца з так многімі і скомплікаванымі заданьнямі, бо ня была да гэтага адпаведна грамадзка прыгатавана. Беларуская інтэлігенцыя ў пераважнай большасьці, замест умела і самаахвярна стаяць на варце народнае справы, апусьцілася на дно асабіста-партыйнае лаянкі, не ўяўляючы зусім таго, што гэтым прыносіць сьмяротны ўдар ня толькі сабе, але і для ўсей справы наагул. Гэтакі стан рэчаў між іншым стварыў і той сумны факт, што беларускі рух стаўся для некаторых мейсцам здабываньня асабістае кар'еры, а адсюль пайшло ўсякае партыйніцтва і монополізаваньне беларускага руху вылучна праз тыя ці іншыя палітычныя згуртаваньні.

Нашая інтэлігенцыя яшчэ да апошніх дзён сьлепа ўверана, што з беларускім рухам „усё добра"—не старалася прыстасавацца да што раз большых вымогаў сучаснасьці, не хацела прадугледжываць усякіх магчымасьцяў на будучыню.

А народныя масы, якія замест умелага кіраўніцтва і духовага падтрыманьня з боку інтэлігенцкіх вярхоў, былі няміласэрна поены лаянкай і недапушчальнымі экспэрымэнтамі, страцілі веру ў уласныя сілы і ў магчымасьць лепшае і сьветлае будучыні. Дайшло такім спосабам урэшце да таго, што паміж інтэлігенцыяй і народнымі масамі стварылася вялікая прорва і адныя для другіх сталіся чужымі. А гэта агульная дызор'ентацыя беларускіх масаў дала магчымасьць нашым ворагам рабіць усякія палітычныя экспэрымэнты над беларускім народам.

У выніку ўсяго гэтага беларускі адраджэнскі рух, які яшчэ пару гадоў таму назад так пышна разьвіваўся і ахапляў што раз шырэйшыя prасторы грамадзкае дзейнасьці, перажывае сяньня вялікі крызыс. Мусім таксама прызнаць, што гэты стан рэчаў выкліканы ня толькі нашай уласнай віной, але такжа мае свае вонкавыя, незалежныя ад нас прычыны. Бо перадусім той трудны матэр'яльны стан беларускага народу, уціскі і дэнацыяналізацыйныя тэндэнцыі сільных гэтага сьвету ды ўрэшце малая сьвядомасьць і грамадзкая недасьпеласьць масаў мусілі ў значнай меры ўплынуць на бег адраджэнскае хвалі.

Аднак усьведамленьне ўсякіх грамадзкіх недахопаў дае заўсёды тым большыя імпульсы да працы, родзіць зразуменьне, як трэба працаваць, каб не рабіць больш памылак.

І беларуская студэнская моладзь, якая ўжо цяпер адыгрывае значную ролю ў беларускім руху, уявіўшы да пэўнае меры ненармальнасьць

у дзейнасьці старэйшага грамадзянства, павінна тым большыя ставіць вымаганьні ад самой сябе. Бо моладзь — студэнства ёсьць асноваю новае гэнэрацыі, якая ўсюды і заўсёды ўносіць з сабой новыя, больш адпаведныя концэпцыі грамадзкае працы.

Праўда, гаворачы аб сяньняшнім беларускім студэнстве трэба з пагардаю ўспомніць аб тых рэнэгатах, якія выйшаўшы з пад тых-жа саламяных беларускіх стрэхаў не пастыдаліся сябе назваць „polakami“, „истинно-русскими“, або ўрэшце „з гордасьцю заяўляюць, што яны інтэрнацыяналісты“ (Вольная Думка“ № 2). Але тая частка беларускага студэнства, якая згуртавалася пад беларускім штандарам, ёсьць непараўнальна творчай і жывой. Паміма некаторых недастаткаў і заганаў, трэба прызнаць, што беларускае студэнства заўсёды сярод змаганьняў старэйшага грамадзянства *захоўвала поўную нэўтральнасьць і стаяла такім чынам на вышыні панадпартыйных паглядаў на народную справу*, ня звужаючы яе да інтарэсаў уласных. Гэта бязумоўна было найбольшым плюсам у нашых грамадзкіх паглядах, што і павінна быць у поўнасьці захавана надалей, а ўсім тым, якія кіруючыся вузкімі палітыканскімі мэтамі стараюцца зрабіць з адзінае студэнскае сям'і прадмет партыйных змаганьняў, павінен быць даны належны адпор. Ізалюючы сябе ад партыйных змаганьняў старэйшага грамадзянства ня значыць, што мы павінны зусім адсоўвацца ад супрацоўніцтва з старэйшымі. Наадварот мы павінны пралазіць у ўсе беларускія так палітычныя, як і культурна-асьветныя пляцоўкі, але ўсюды быць сьвядомымі сваіх заданьняў: што не асабіста — партыйныя змаганьні, не разьлічаючыя часта на сродкі і недаючыя пазытыўных вартасьцяў, а адна адзіная мэта незалежна ад розных шляхоў, каторымі да яе ідзецца, павінна прысьвечываць усім нашым пачынаньням.

Далей, прыступаючы ў недалёкай будучыні, а часткава й сяньня, да выконываньня ўскладаных на нас народных абавязкаў, мы павінны сябе адпаведна прыгатаваць да гэтага, каб ўзятая ў рукі справа асягнула якнайбольшыя пасьпехі. Беларускае студэнства павінна такім чынам зьвярнуць найбольшую ўвагу на сваё *грамадзкае выпрабленьне*. І нашым абавязкам ёсьць пакідаючы унівэрсытэцкую лаву быць людзьмі грамадзка дасьпелымі ў поўным значэньні гэтага слова, што можым асягнуць праз веду тэорэтычную і практычны ўдзел у працы.

Трэба навучыцца любіць тую ідэю, за якую змагаемся, любіць яе да бесканечнасьці, каб ня была яна нечым туманным і сумліўным, а каб сталася *найвышшай праўдай і найвышшым правам* у жыцьці і дзейнасьці кожнага. Беларускі студэнт, як і беларускі інтэлігент наагул павінен быць да пэўнае меры унівэрсальным. Гэта выплывае з нашага выняткавага гістарычнага палажэньня, бо калі іншыя народы, дайшлі ўжо да поўні свайго грамадзкага разьвіцьця, то мы яшчэ зьяўляемся на поўдарозе. А дзеля гэтага сваей працы мы не павінны мерыць працаю іншых, а непараўнальна больш працаваць і працаваць у розных галінах, якія тольлі вымагаюць сілаў.

Усякія грамадзкія пачынаньні ніколі не павінны мерыцца толькі сучасным днём, а павінны быць дакладна разьлічаць на даўжэйшы

працяг часу, каб такім спосабам уяўляць сабе ўсе магчымасьці, якія нас чакаюць у недалёкай будучыні і адпаведна да іх прыгатавацца.

І калі-б мы ўзапраўды ўсё вышэйшае ўзялі пад увагу ў сваей працы, то сьмела маглі-б сказаць, што мы зьяўлямся *грамадзка дасьпелымі*, а гэта неабходны атэстат у ўсякай дзейнасьці. Тады бяссумліўна вышаўшы з Унівэрсытэту нашая маладая інтэлігенцыя не пайшла-б тэй дарогай, па якой пашлі амаль усе кончыўшыя дасюль унівэрсытэты, адзіным імкненьнем каторых ёсьць якнайшчасьлівей абсталявацца ў самастойным жыцьці і ўжываць усіх тых дараў, якія прыносіць яму унівэрсытэцкі дыплём.

Беларускае студэнства ня гледзячы на так вялікія труднасьці, патрапіла ўжо сяньня ў сваей працы *выйсьці на міжнародны грунт*, шляхам прыняцьця яго сябрам „С. І. Е.“ („Міжнароднай Студэнскай Конфэдэрацыі“) і па меры магчымасьці бярэ чынны ўдзел у яе працы. Вось-жа прызнаючы гэты мамэнт вельмі важным нацыянальным здабыткам, мы павінны натужыць усю энэргію, каб на гэтай міжнароднай пляцоўцы здабыць усё ад нас магчымае. І наагул, пры сучасных варунках, калі загранічная рэпрэзэнтацыя Беларусаў ёсьць далёка невыстарчальнай, беларускае студэнства павінна ўсімі сіламі пралазіць у розныя міжнародныя пляцоўкі і вясьці прапаганду народнае справы. І ў гэтым заданьні павінна нам прыйсьці з помаччу старэйшае грамадзянства, памагаючы гэтым матэр'яльна.

Урэшце ў сваей грамадзкай працы павінны мы трымаць цесную лучнасьць з народнымі масамі, вясьці шырокае нацыянальнае ўсьведамленьне, паказываць дарогу да самадзейнасьці і самаарганізацыі вёскі. Перадусім у гэтым кірунку трэба падыходзіць да масаў шчыра і сумленна, бо сяньняшні мамэнт нас вучыць, да чаго давялі беларускія масы тыя, якія глядзелі на іх праз прызму палітыканства і партыйных тэндэнцыяў.

Думкі і імкненьні беларускага селяніна павінны быць нашымі думкамі і імкненьнямі, мо толькі больш сконкрэтызаванымі і афармленымі.

Усякія народныя імкненьні, калі яны толькі зьяўляюцца жыцьцёвымі і натуральнымі, заўсёды ў сваей канчальнай мэце маюць здабыцьцё дзяржаўнае незалежнасьці ці яе замацаваньне дадзенага народу. Гэта ёсьць зусім натуральным зьявішчам, бо на працягу ўсяе гісторыі дзяржаўная незалежнасьць у паняцьці і разуменьні розных народаў ня была толькі найвышэйшай ступеняй яго так духовага як і матэр'яльнага разьвіцьця, але мела сама ў сабе вечна творчыя і незатоеныя вартасьці.

Да гэтага ня з меншай сілай імкнецца і беларускі народ,—і паміма яшчэ многіх хістаньняў і збачэньняў, паміма яшчэ нявыстарчальнай сьвядомасьці і грамадзкай недасьпеласьці, найвышэйшым ідэалам беларускага народу ёсьць — *Вольная Злучаная і Незалежная Беларусь*.

Дык і мы ў сваей працы і грамадзкіх паглядах заўсёды будзьма вернымі гэтаму ідэалу, імкнімася да яго ня толькі лёзунгамі і сьвяткаваньнямі, а вядзіма моцную пазытыўную працу ў гэтым кірунку ў усіх галінах грамадзкага жыцьця.

Дык да працы сумленнай і ахвярнай, каб у мамэнт, калі выступіць маладая гэнэрацыя на ніву самастойнае дзейнасьці, агульнанародная справа стала на моцны грунт. А сяньняшні цяжкі крытычны мамэнт, які пераживае беларускі рух, хай будзе для нас навукаю, хай нас узброіць у моцную сілу і вытрываласьць у далейшым змаганьні за тыя ідэалы, якія ёсьць найвялікшай асновай нашага народнага існаваньня.

Беларуская студэнская моладзь якраз запачаткавала беларускае адраджэньне і ў мамэнты цяжкіх змаганьняў за свой народны быт, была заўсёды авангардам у ўсякіх грамадзкіх пачынаньнях.

Дык і мы будзьма вернымі сьветлай традыцыі нашых папярэднікаў і, як калісь яны, аддайма сяньня ўсё для самаахвярнай і вытрывалай барацьбы за агульнанародную справу!

*В—іч*

# ДА 5-тых УГОДКАЎ А. Б. С. А.

Ў сувязі з прайшоўшымі ў 1929—30 акад. годзе пятымі ўгодкамі істнаваньня Цэнтралі Беларускага Студэнства—„АБСА“ (Аб‘яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў) гожа будзе разгледзіць на гэтым месцы ў кароткіх словах гісторыю яе паўстаньня, мэты і заданьні‘ дый ужо зробленую працу.

Пасьля сусьветнае вайны, беларускае студэнства раскіданае па розных унівэрсытэцкіх местах, а найбольш зарганізаванае і маючае найбольш адпаведныя варункі працы ў Чэскае Празе, бачучы страшэнную распыленасьць сярод беларускіх студэнскіх арганізацыяў, прыйшло да пераконаньня аб неадкладнай патрэбе стварэньня сваей цэнтралі. Ў выніку доўгіх і шматлікіх перагавораў органаў паасобных арганізацыяў, на І-шым зьездзе беларускага студэнства паўстае 20-га жніўня 1924 году Аб‘еднаньне Беларускіх Студэнскіх Аарганізацыяў.

І вось пачынаецца праца, АБСА вялікую ўвагу прысьвячае акцыі на міжнародным полі, у выніку чаго 26-га жніўня 1926 г. аднагалосна прыймаецца ў Міжнародную Студэнскую Конфэдэрацыю (CIE); да кожнага зьезду CIE, прэсавы аддзел АБСА выдае інфармацыйны бюлэтэнь у францускай мове, маючы на мэце азнаямленьне сваіх чужаземных калегаў з жыцьцём, варункамі працы і палажэньнем наагул беларускага студэнта.

Аб значэньні гэтага і гаварыць ня варта, кожны здасьць сабе справу, што беспасярэдні таварыскі кантакт са студэнскай моладзьдзю ўсяго сьвету, гэта знача з тымі, якія заўтра будуць кіраваць справамі свайго народу, мае для зьдзейсьненьня Ідэалу Незалежнасьці Беларусі колёсальную вагу.

Апрача гэтага консолідацыя, як такая, раскіданага беларускага студэнства, цеснае злучэньне інтэлектуальных сілаў народу мае ў сучасны мамэнт разьбіцьця беларускага фронту на ўзаемна зьядаючыя групы, так сама сваё значэньне.

Сама ў сабе АБСА ёсьць арганізацыяй выключна акадэмічнага

характару на грунце ўзаемазапамогі культуральнай і матэр'яльнай, арганізацыяй рэпрэзэнтуючай беларускае студэнства.

Сродкі АБСА складаюцца з сяброўскіх складак, якія вызначае зьезд, з розных ахвяраў, дый зыску з прадпрыемстваў.

Да АБСА могуць належаць усе беларускія студэнскія непалітычныя арганізацыі; пры чым правадзейнымі сябрамі зьяўляюцца ўсе студэнты, сябры тых арганізацыяў, якія ўвайшлі ў склад АБСА.

Кіруючымі органамі АБСА зьяўляюцца: зьезд, прэзыдыум, рэвізыйная камісыя, дый міравы суд.

Кожны год АБСА склікае зьезд прадстаўнікоў тых студ. арганізацыяў, якія ўваходзяць у яго склад і так пасьля вышэйуспомненага зьезду ў 1924 годзе, які меў характар арганізацыйны адбыўся II зьезд ў 1926 г. (уставадаўчы), які паклікаў у склад кіруючага органу кал. кал. М. Гузоўскага, В. Лаўскага, М. Каберца, В. Русака і М. Чарнецкага.

11-га лістапада 1927 г. адбыўся III зьезд, на якім да ўраду былі пакліканы калегі: В. Лаўскі, Т. Грыб, А. Клімовіч, В. Русак і Ф. Грышкевіч.

IV зьезд адбыўся 16 лістапада 1929 г. Да ўраду былі пакліканы В. Лаўскі, Т. Грыб, Р. Клаўсуць, Л. Гірыс, Ф. Грышкевіч і А. Вітушка.

Ў бягучым 1930 годзе на V юбілейным зьезьдзе да ўраду былі пакліканы В. Лаўскі, А. Бартуль, Т. Грыб, С. Станкевіч, Л. Гірыс і А. Вітушка.

Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя зьезды адбываліся ў Чэскае Празе, якая ў апошніх гадох мела найбольшы лік бел. студэнства, дый апрача таго іншыя спрыяючыя варункі былі повадам выбару на зьезд гэтага, а ня іншага места.

На апошнім зьезьдзе першы раз беларускае студэнства з краю мела магчымасьць у асобе кал. кал. А. Бартуля і С. Станкевіча прыняць беспасярэдні ўдзел у працах зьезду, гэты зьезд адыграў вельмі важную ролю, бо здэцыдаваў аб пераносе трох аддзелаў АБСА ў край, а іменна: — аддзелу прэсавага, спартовага і эканамічнага, як маючых большыя шансы да працы на родным грунце, дый пастанавіў зложыць архіў АБСА ў Бел. Музэй ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні.

Калі гаварыць аб удзеле АБСА ў зьездах СІЕ і іншых студэнскіх нацыянальных арганізацыях, то трэба прыняць пад увагу, што ня гледзячы на надзвычайна цяжкія матэр'яльныя варункі, АБСА рэпрэзэнтавала беларускае студэнства на зьездах СІЕ ў Варшаве 1925 г. ў 1926 г. ў Празе, ў 1927 г, ў Рыме, ў 1928 г. ў Парыжы, ў 1929 г. удзелу ў зьезьдзе СІЕ ў Будапэшце (Вугаршчына) удзелу прыняць не змагло, толькі дзеля таго, што вугарскія ўлады не далі права на ўезд.

Да кангрэсу СІЕ, які ў 1930 г. (жнівень) адбудзецца ў Бруксэлі АБСА прыгатовывае бюджэт і сродкі на пасылку прынамсі двух дэлегатаў.

Апрача кангрэсаў СІЕ прыймала АБСА удзел у зьездах украінскай студ. моладзі, агулам нельга ня ўспомніць, што беларускае і украінскае студэнства вяжуць і лучаць у адно супольныя, перажываньні, імкненьні і заданьні, а дзеля гэтага праца АБСА цесна зьвязываецца з працамі ЦЭСУС'а — Цэнтр. Саюзу Укр. Студэнства. Аб

прыяцельскіх адносінах беларускае і украінскае студэнскае моладзі ў свой час ў „Студ. Думцы“ быў зьмешчаны артыкул Арэлэцькага старшыні ЦЭСУС'а.

Шмат заданьняў і шмат працы мае яшчэ перад сабою АБСА, хоць трэба адзначыць, што ў меру магчымасьці і шмат ужо зрабіла, але далейшая праца залежыць ад стараннасьці сяброў кіруючых органаў, згоднае працы, веры ў сьветлую будучыню — разуменьне адказнасьці, якая на іх ляжыць, шмат залежа і ад старэйшага грамадзянства, якое павінна зразумець значэньне АБСА для беларускае справы наагул і прыйсьці з матэр'яльнаю і духовай помаччу. Шмат зроблена, але яшчэ больш трэба рабіць, гэтага вымагае наказ грамадзкае сьведамасьці, наказ сучаснага мамэнту.

АБСА здае сабе з гэтага справу і кансалідуючы інтэлектуальныя сілы народу — ut omnes unum sint — прыступіла да VI-га *году працы выпісаўшы* на сваім сьцягу лёзунг—salus patriae suprema lex.

---

СТ. СТАНКЕВІЧ.

# „С.І.Е.“ і ўдзел у ім беларускага студэнства.

„Конфэдэрацыя Міжнароднага Студэнства“ (Confederation Internationale des Etudiants або скарочана—„С.І.Е.“) была заложана ў Штрасбургу ў 1919 г. праз дэлегатаў Нацыянальных Арганізацыяў Студэнтаў Амэрыкі, Англіі, Бэльгіі, Грэцыі, Італіі, Польшчы, Румыніі, Чэхаславаччыны і Югаславііі, каторыя ў той час прыймалі ўдзел у гадавым кангрэсе Нацыянальнага Саюзу Студэнскіх Арганізацыяў Француськіх. „С. І. Е.“ адразу згуртавала ў сабе, як тытулярных сяброў, Нацыянальныя Саюзы студэнтаў Бэльгійскіх, Гішпанскіх, Француськіх, Люксэмбурскіх, Польскіх, Румынскіх, Чэскіх і, як вольных сяброў, студэнтаў Амэрыканскіх, Ангельскіх, Данскіх, Шкоцкіх, Швэдзкіх і Югаслаўскіх, дзеля таго як вольных сяброў, што ў іх ня было яшчэ Нацыянальных Студэнскіх Арганізацыяў, злучаючых у сабе паасобныя студэнскія арганізацыі дадзенага народу.

У наступным годзе на паседжаньні Рады „С. І. Е.“ ў Бруксэлі былі зарэгістраваны створаныя ўжо Нацыянальныя Студэнскія Арганізацыі большасьці з вышуспомненых народаў і там-жа быў прыгатаваны першы гадавы зьезд „С. І. Е.“, які і сабраўся ў 1921 г. ў Празе Чэскай. На гэтым зьездзе было прынята ў лік тытулярных сяброў Украінскае Студэнства.

Урэшце ў 1924 г. на Кангрэсе „С. І. Е.“ ў Варшаве, гдзе быў канчальна апрацаваны і зацьверджаны Статут „С. І. Е.“, ў лік тытулярных сяброў „С. І. Е“ былі прыняты студэнты Баўгарскія, Эстонскія, Вугорскія, Латышскія, Турэцкія, і як вольныя сябры студэнты Паўднёвай Афрыкі, Новай Зэляндыі, Саюз Расейскіх Студэнтаў Эмігрантаў, Саюз Студэнтаў з Георгіі і з Гонг-Конг. Нацыянальны Саюз Нямецкіх Студэнтаў „Deutsche Studentenschaft“ дзеля прычын

статутовых ня мог быць яшчэ прыняты ў склад „С.І.Е.,“ але пастаноўлена вясьці з ім якнайбольшае супрацоўніцтва. Таксама потым вядзецца шырокае супрацоўніцтва з другой нямецкай студэнскай арганізацыяй—„Deutscher Studentenverband“.

Гэткім чынам „СІЕ“ гуртавала ўжо студэнства 28 народаў, з лікам студэнства каля 500,000. Апрача таго „С. І. Е.“ навязала лучнасьць і супрацоўніцтва з 13 іншымі міжнароднымі студэнскімі арганізацыямі, а нават з Лігай Народаў.

У 1924 г. паўстала ў Празе Чэскай і Беларуская Нацыянальная Студэнская Арганізацыя—„Аб‘еднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў“ — (АБСА), ад якой была выслана дэлегацыя на VII кангрэс „С.І.Е.“ у Варшаву ў 1925 г., гдзе аднак просьба Беларусаў аб прыняцьці іх у „С. І. Е.“ была адкінута.

Зразумела, беларускае студэнства гэтым не магло задаволіцца і вядзе далей інтэнсыўную працу ў гэтым кірунку. І вось на наступным VIII Кангрэсе „С.І.Е.,“ які сабраўся ў жніўні 1926 г. ў Празе Чэскай *беларускае студэнства было аднагалосна прынята вольным сябрам у склад „С. І. Е.“*, пры адсутнасьці на салі паседжаньняў дэлегацыі польскай, баўгарскай, югаславянскай і расейскай. На азначаным Кангрэсе беларускае студэнства было заступлена дэлегацыяй у складзе В. Лаўскага, Я. Ермачэнка і Т. Грыба. Варта адзначыць, што перад прыняцьцем Беларусаў у „С. І. Е.“ расейскія чарнасоценцы і беларускія зьменатычнікі злажылі ў Бюро Прапаганды „СІЕ“ пісьменныя супроць гэтага пратэсты, на якія аднак Кангрэс не зьвярнуў ніякае ўвагі.

У 1927 г. адбыўся Кангрэс „С. І. Е.“ у Рыме, на якім „А. Б. С. А“ таксама прыняло чынны ўдзел у складзе дэлегатаў А. Клімовіча і К. Кулака. На гэтым Кангрэсе ў лік сяброў „С.І.Е.“ былі прыняты: Народная Фэдэрацыя Амэрыканскіх Студэнтаў, Народная Фэдэрацыя Студэндаў Канады і Студэнтаў Уругваю.

У 1928 г. адбыўся X Кангрэс „С. І. Е.“ ў Парыжы, на які беларускае студэнства, з прычыны браку матэр‘яльных сродкаў, не магло выслаць сваей дэлегацыі. Аднака-ж беларуская дэлегацыя была тут заступлена надзвычайным прадстаўнікам П. Кажэўнікам, які і зложыў ад імя „АБСА“ на пленарным паседжаньні „С.І.Е.“ падробны рэфэрат аб дзейнасьці і стане беларускага студэнства. Тутака між іншым афіцыяльна аформлена прыняцьце ў „С.І.Е.“ студэнтаў Мэксыканцаў і Альбаньцаў.

У гэты мамэнт „С. І. Е.“ злучала ў сабе студэнства аж 40 народаў з усіх часьцей сьвету.

У 1929 г. адбыўся XI Кангрэс „С. І. Е.“ ў Будапэшце, на які „А.Б.С.А.“ выдэлегавала сваіх прадстаўнікоў у складзе Фр. Грышкевіча і Т. Грыба. Але нажаль, вугорскае консульства ў Празе, кіруючыся вузкімі палітычнымі мэтамі, адмовілася даць беларускай і украінскай дэлегацыі візы на ўезд у Вугрыю, у выніку чаго Кангрэс адбыўся бяз удзелу Беларусаў. Аднак на самым Кангрэсе справа гэта належна была парушана, што моцна скампрамітавала адносныя вугарскія ўлады.

Сёлета ў летку г. зн. у 1930 г. адбудзецца XII Кангрэс „С. І. Е.“

ў Бруксэлі, да ўдзелу ў якім беларускае студэнства вядзе ўжо прыгатаваньні. Трэба адзначыць, што „АБСА“ і падуладныя яму ворганы апрача беспасярэдняга ўдзелу ў працах „С. І. Е.“ падчас яго зьездаў, трымае з гэтай сусьветнай Студэнскай Пляцоўкай наагул сталую лучнасьць, шляхам вымены карэспандэнцыі ды выдаваньнем амаль перад кожным Кангрэсам свайго „Бюлетэню“ ў французскай мове. Важна такжа адзначыць, што беларускае студэнства на Кангрэсах „С. І. Е.“ заўсёды мае шчырую каляжэнскую помач ад студэнтаў Нямецкіх і Украінскіх.

Паводле статутовых нормаў да „С.І.Е.“ могуць толькі належыць нацыянальныя Саюзы Студэнтаў, злучаючыя ў сабе ўсе паасобныя студэнскія арганізацыі дадзеных народаў.

Мэтай „С.І.Е.“ паводле першага параграфу яго Статуту ёсьць:

1) Стварэньне паміж студэнтамі ўсіх народаў адносінаў прыяцельства і паважаньня.

2) Арганізаваньне сталае лучнасьці паміж студэнскімі арганізацыямі ўсіх зямель.

3) Студыяваньне ўсіх пытаньняў адносна вышэйшае навукі, інтэлектуальнага і матэр'яльнага жыцьця студэнтаў.

Дзейнасьць „С. І. Е.“ і яго ворганаў у пераважнай большасьці абыймае наступныя галіны: 1) дасьледываньні унівэрсытэцкіх пытаньняў, 2) справы студэнскіх падарожжаў, 3) справа студэнскае помачы і 4) справа міжнароднай арганізацыі студэнскага спорту. Унутраная праца „С. І. Е.“ вядзецца ў паасобных камісіях і ў Цэнтральным Урадзе. Кожны год выдаецца гадавік „С. І. Е.“ ды месячны „Бюлетэнь“, якія інфармуюць аб стане і працы „С. І. Е.“ і ўходзячых у яго склад арганізацыяў.

Такім чынам „С. І Е.“ мае вялікае значэньне для студэнскае моладзі ўсяго сьвету, якое злучае іх у адну каляжэнскую сям'ю, вуча іх вясьці арганізацыйную працу, стварае розныя студэнскія палёгкі ды ўрэшце нармуе студэнскае жыцьцё ўсяго сьвету.

Непараўнальна большае значэньне мае „С.І.Е.“ для беларускага студэнства, бо калі ў сяньняшні мамэнт беларускі народ нямаючы яшчэ ўласнае дзяржавы, а нат аўтаноміі, з прычынаў так фармальнага, як і тэхнічнага характару ня можа мець сталай і належнай лучнасьці з заграніцай, то беларускае студэнства шляхам уваходу ў „С. І. Е.“ якраз трымае гэтую лучнасьць з маладымі прадстаўнікамі ўсяго сьвету. І дзеля гэтага нашым найвялікшым сяньняшнім абавязкам ёсьць умела прадаўжаць гэтую лучнасьць, прабіваючыся ў што раз новыя міжнародныя пляцоўкі і належна замацоўваючы ў іх сваё становішча. Гэтым паможам ня толькі сабе, але і для ўсяе народнае справы наагул.



Конфэрэнцыя з дэлегатам Міжнароднай Студэнскай Помачы („International Student Service) к. I. Паркэсам (сядзіць пасярэдзіне) з прадстаўнікамі студэнтаў Беларусаў, Літвіноў і Украінцаў дня 23—II—30 г. у Вільні.

# СНЫ.

Калі гасьне сьветазарны блеск сонца, а цені наступаючай ночы, бясшумна крадучыся спавіваюць зямлю, тады ціхі і бязьмежны спакой агортывае душу чалавечую...

І зьяўляюцца нізкаю сны... Сьніць я тады пачынаю, каханьне маё, аб табе, мроі мяне спавіваюць, удараючы прыбоем хваляў журлівых у каменьня шэрыя думак маіх.

І зьяўляюцца сны... знову сны... Як белая пена вясёлкаю пузыркоў на каменьнях прыбярэжных ірдзіцца і агнямі іграе, так разьвесяляюць шэрань жыцьця майго думкі аб табе. Ты як мроя, як цудная зьява ўстаеш прад вачыма душы маёй і я цешуся бліскам вачэй тваіх, усьмешкі тваёй хараством і ня сьмеючы дакрануцца да цябе, каб не расплылася зьява твая, толькі ў мроях маіх ласкі тваей прагну так, як прагне вады крынічнае вандроўнік змучаны.

І зьяўляюцца сны... знову сны...

Вось цені ад крыльляў аксамітных цёмнае ночы ў сваім размаху агарнулі засыпаючы край, а я з расчыненымі вачыма сьню сны шаленства аб табе, каханьне маё! І думкі мае песьцяць цябе, я сьню ўглядаючыся на зорнае неба, сны роскашы, бо зьявіліся яны неўспадзеўкі да мяне... Бо зьявіліся знову сны... *А. Бартуль.*

# ХВАЛЯВАНЬНЕ

Некі боль і туга
Мучаць сэрца маё,
Душу спавіваюць жудою;—
Уцякаю тагды з усіх сіл як мага,
Недзя ў места прастор, сам ня знаю чаго,
Уцякаю з свайго я пакою.
    Па дарожках глухіх
    Я прадмесьця іду,
    Чую пахі цьвітучага бэзу,
Чую скульсьці я песьняў уздым маладых.
Бачу ўсюды прысутну каханьне — вясну; —
Адчуваю жыцьця-рух у бязмежжы.
    Сэрца б‘ецца ў грудзёх
    Ўсё мацней і мацней,
    Дрыжаць струны душы быццам хвалі,
Шчасьця хочацца мне, каб я ўмеў, каб я мог,
Пакахаць, прыгарнуць як калісьці шчырэй,
Мо і шчасьця ўсьміхнуліся-б далі.
    Але няшчасьце мне
    Адабрала жыцьцё: —
    Яно выжарла з сэрца парывы,
Хіба толькі ў лятунках, у мроях, ва сьне,
Аб даўнейшых хвілінах сальлю пачуцьцё,
Час каханьня успомню бурлівы.
    Дзе-ж каханьне маё?
    Майго жыцьця вясна,
    Хто цалуець цяпер твае рукі,
Хто шчасьлівы здабыў душу, сэрца тваё,
Каму доля ў абняцце цябе занясла,
Чыё вуха пяшчот ловіць гукі?
    Я — як колас адзін,
    Бач па вулках іду,
    Забыцьця па дарозе шукаю.
Сьвецяць зоркі ў высі, неба дрыгаець сінь,
Ах ты зорка мая, ці цябе я знайду,
Ці цябе я ізноў адшукаю.
    Пакажыся ты мне,
    Засьвяці, абагрэй,
    Хай я радасьць жыцця зноў абгледжу,
Хай нам шчасьце на хвілю, на момант мільгне,
Хай нам песьню каханьня сьпяець салавей,
Сярод кустаў пахучага бэзу.

Вільня 27. V. 1930 г. *М. Тулейка*

* * *

Размроеным крокам
Ноч надыходзе вясняная,
Крадзецца між бельлю вішнянай.
Паветра запахам бэзу
Дрыжыць полуп'янае
Дыша сілай каханьня
Нязнанай
І думкі вагніста
Распененай нізкай зданьняў
Снуюць сны шаленства бясконца,
Гарaць поўадкрытыя вусны
Цалункаў жаданьнем,
Грэшных і палкіх,
Як сонца.
Зьвіваюцца роскашшу зданьня
Ночы вясьнянае
Сьцелюцца разам з сумрокам,
Вось ўспыхнулі
Зоры цяністыя —
Ноч майская гэта
Надходзе
Размроеным крокам.

Май 1930 г. *А. Бартуль.*

# СТРУНЫ.

Дзыннн... Струны душы як вы звонкія, струны,
Ніколі спакою, ніколі цішы
Ад вас я ні знаю — зьвіняць усё гулы,
Дзесь там на дне сэрца, на дне дзесь душы.
Хвалюецца кроў ад тых гукаў таёмных,
Гэй думкі за думкамі мчацца-–ляцяць,
Ах струны! — вы граеце песьню чароўную,
А песьні мне той ні злавіць, ні паняць.
Часамі вы плачаце, струны, із болю,
Страшны і жудасны стогн даеце,
Сусьветнага жалю, стогн суму, нядолі...
О! струны вы ў даль мяне дзесь завеце.
Скажэце мне, струны—і дзе-ж тыя далі?
Якія дарожкі да іх там вядуць?
А шчасьце ці ёсць там — дарэмна сьпявалі,
Па шчасьце на заўжды ня можна сягнуць!
Хвіля шчасьця, мамэнт, прамень з паза хмараў,
Блісьне што часамі і згіне ў імгле,
О! шчасьце — ты сколькі-ж забрала ахвяраў,
І сколькі-ж крыві паплыло праз цябе.

Ах струны! дзынн... струны пад звон ваш мажорны,
Тытанаў аблічча плывуць прад вачмі,
З жыцьцём што змагаліся, гналі дзень чорны.
Па шчасьце сягалі сярод хмараў, цьмы.
І дзе-ж яно шчасьце? — хіба у дагматах,
Жывучае слова памерла, німа,
Чын ўсіх тытанаў астаўся у сьвятах,
Ідэя ў малітвах іссохла да дна...
Назад вякоў дваццаць — Крыж на Гальгоце.
Чалавек на Крыжу расьпяты вісіць,
О! людзі, якія-ж пякельныя моцы
Ўкрыжавалі Яго, каб ня мог даўжэй жыць.
Глянь нэрвы сталёвыя боль ў грудзёх душаць,
А вочы гавораць жыць буду вякі,
Ідэі збаўленьня і сьмерць ні заглушыць,
Дарэмныя думкі, Антыхрыст, пакінь.
Ўміраю за людзкасьць, за шчасьце, за згоду,
Ўміраю за вольнасьць, за роўнасьць, за быт...
Ідэя-ж мая пойдзе з роду да роду,
Страх выжане, зьдзекі — шатанаў скавыт.
Жыцьцё будзе праўда, жыцьцё будзе праца,
Жыцьцё будзе шчасьце, жыцьцё будзе рай.
А імя маё будуць ўсе праслаўляці,
І птушкі і зьверы і кветкі і гай...
Я божае царства на землі вясстаўлю,
І моцы чартоў не зваюююць яго...
Блажэнныя сэрцам, пакораю правы,
Праслаўляны будуць ад імя майго...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І кроў палілася, руччамі, ракамі,
Зярнё узышло і дало з сябе плод; —
Жывыя паходні відаць між садамі...
З усьмехам на вуснах на сьмерць йдзе народ.
Вучыцеля цень усьміхаецца з неба,
Ў туманах аблічча ужо ня відаць,
Нічога ня хочам: ні кашы ні хлеба,
Ён кажа па царства нябесна сягаць.
Мурашкі двуножныя—глянь капашацца,
Якіясь будынкі стаўляюць, муры,—
Бач золатам вежы, крыжы зіхацяцца,
Ў малітвах кадзідла кураць аўтары.
Скастнела ідэя! — Надарма ахвяры; —
Ў сутаны і ў крыж закавана жыцьцё —
Яшчэ раз забілі Яго і на мары
Зложылі. — Пайшоў Ён ізноў ў забыцьцё.
Пакрыўджана людзкасьць чакаець ратунку,
Ў пакоры чакаець — як Ён прыказаў.
З забранай ідэі чакаець рахунку
Даволі на ёй хтосьці там гандляваў.

Аддайце бяз сваркі — бо ў пыл усё пойдзе,
Бо сіла заменіць пакору, — зьмяце,
Зьмяце ўсё да шчэнту,—брат брата ні знойдзе
Ня будзе ратунку нікому й нідзе.
Вунь глянце на Ўсход! — у крыві і катушах
Жыцьцё хоча вырвацца з сільяў — кайдан, —
Там страшнага бога—Мамона хтось душыць, —
Енкі, стогны чуваць ад балючых тых ран.
Старая ідэя! — йдзе новым карытам,
Крывавым карытам ляціць і гудзе.
Дзе-ж выбаўленьне навукі забытай:—
Дзе-ж ваша аружжа, ратунак ваш дзе?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дрыжаць ў душы струны, шукаюць натхненьня,
Шукаюць ідэі, шукаюць дабра,
Шукаюць для грэшнай зямлі выбаўленьня;
Ці знойдуць? — Ох страшна—навокал мана.
Дзынннн... Струны душы, як вы звонкія струны,
Ніколі спакою, ніколі цішы,
Ад вас я ня знаю, — дрыжаць усё гулы
Дзесь там на дне сэрца, на дне дзесь душы!

*Міхась Тулейка.*

Кракаў 28. III. 1930 г.



Сям'я. П. СЯРГЕЕВІЧ.

М. ШКЯЛЁНАК.

# Проба аналізы народнае гаспадаркі Беларусі з пункту гледжаньня яе эканамічнае самавыстарчальнасьці.

(Выцяг з цыклю рэфэратаў, чытаных у БСС)

Квэстыя экономічнага вывучэньня нашае Бацькаўшчыны, exempio modo пазнаньне структуры народнае гаспадаркі, азначэньне высокасьці яе народнага даходу мае першараднае значэньне ня толькі для старэйшага грамадзянства, ужо на гэтай ніве ў той ці інны спосаб працуючага, але і вялізарнае выхаваўчае значэньне для нашае моладзі унівэрсытэцкае або школьнае, з якой у першую чаргу будзе рэкрутавацца прышлы контынгэнт працаўнікоў на ніве народнага адраджэньня. Бо ці-ж не найлепш наша школьная моладзь выканае сваё заданьне, калі, шляхам няраз жмуднае працы, па сканчэньню навукі, будзе чуць сябе запраўдным работнікам, здольным да працы, ведаючым свой край і свае заданьні у гэнай працы. Але дзеля асягненьня гэтае мэты, трэба перадусім, зродна з думкай кінутай многа вякоў таму назад — codnosce te ipsum — здабыць сабе запраўдную веду, браць ад школы і жыцьця ўсё тое, чаго толькі даецца. Найбольш глыбокі патрыётызм — гэта творчая ідэя паняволеных народаў, калі толькі будзе апірацца на адным энтузыязме — ніколі ня вытрымае цяжкае жыцьцёвае школы, якую праходзяць усе адраджаючыяся народы. Любоў да свайго краю, фундамэнтам і крыніцай якой будзе толькі пылкасьць выабражэньня ў цяжкой жыцьцёвай барацьбе не пераможа і ў найлепшым прыпадку яна змусіць энтузыяста размяніцца на дробную манэту, у найгоршым нават перакіне яго ў лягер ворагаў сваіх некалішніх ідэяў. Затое калі гэты энтузыязм, шляхам умелай працы на працягу школьных гадоў будзе узмацовывацца і будавацца на фундамэнтах запраўднае веды, калі вучань ці студэнт — будзе з н а ц ь тое, што ён пакуль яшчэ несьвядома кахае,— дык у гэтым прыпадку жыцьцёвая бура не патрапіць разбіць яго лятуценьняў, бо яны будуць мець пад сабой рэальны грунт. А хіба не падлягае сумліву, што пазнаньне свайго краю з пункту гледжаньня экономічнага, а ў першую чаргу нашае народнае гаспадаркі — тых матэрыяльных рэссурсаў, на якіх апіраецца дабрабыт нашага народу, — мае, побач з іншымі галінамі веды аб нашай Бацькаўшчыне — першароднае значэньне.

Але ня толькі прыгатаваньне прышлых работнікаў на ніве народнага адраджэньня маюць студыі над экономічнай структурай нашага краю. Іхняе важнае значэньне ўзрастае непамерна, калі мы зірнём на тыя консэквэнцыі, якія з належнага эканомічнага пазнаньня нашага краю можам для сябе вывесьці. Перадусім наша э к о н о м і к а адчыне нам ня толькі рэчаістны стан нашае

народнае гаспадаркі, але пакажа яе дадатнія і ад‘емныя бакі, пакажа шляхі, вядучыя да ліквідацыі хвараблівых і узмацненьне здаровых яе праяваў. І тут перад намі адчыніцца шырокае і ўдзячнае поля для працы. Трэба такжа памятаць, бо так кажа гісторыя адрадзіўшыхся, а яшчэ нядаўна паняволеных народаў, што пры адпаведным контынгэнце ведаючых сваё заданьне і добра падгатаваных работнікаў на ніве экономічнага адраджэньня, усялякія, нават найцяжэйшыя перашкоды будуць пераможаны.

Па за гэтымі двумя заданьнямі, ёсьць яшчэ адно няменш важнае. Мы ведаем, што каб адраджэньне народу біла нармальным тэмпам—яно павінна быць усебаковым, г. зн. аніводная галіна яго жыцьця не павінна быць закінена, занядбана, бо гэтае ад‘емнае зьявішча зараз-жа адаб‘ецца на агульных рэзультатах, выклікаючы розныя хвараблівасьці. Тым больш зразумела, ня можа быць закінена, як гэта сяньня на жаль у нас можна сконстатаваць, экономічная галіна нашага жыцьця, істотай якой зьяўляецца асягненьне як найлепшага матэрыяльнага дабрабыту пры дадзеных абставінах часу і месца, дзякуючы чаму яна ёсьць да пэўнае стараны рэгулятарам іншых.

Урэшце, досьледы над нашай народнай гаспадаркай дазволяць нам разьвязаць яшчэ адно больш тэорэтычнае чымся практычнае пытаньне:—ці Беларусь, у яе этнографічных граніцах, можа быць уважана за край здольны да самастойнае экономічнае эгзыстэнцыі. Вось-жа, здаючы сабе справу з важнасьці экономічных студыяў над нашай Бацькаўшчынай, пастараемся прааналізаваць сучасны стан нашае народнае гаспадаркі, прынамсі ў кароткіх нарысах, і пры гэтым з п. гледжаньня здольнасьці яе як пэўнай гаспадарчай адзінкі да самастойнай экономічнай эгзыстэнцыі. Гэтакая пастаноўка пытаньня дазволіць нам найлепш высьвятляць усе вышэй успомненые інтэрэсуючыя нас квэстыі. Пры гэтым на пачатку адзначым, што Беларусь, як пэўную экономічну адзінку, будзем разглядаць у яе этнографічных граніцах.

Што наагул, пад паняцьцям краю экономічна самавыстарчальнага разумее сяньняшняя навука? Ці мае гэта быць край, які-б здолеў уласнымі сіламі заспакоіць усе патрэбнасьці свайго насяленьня? Тэорэтычна гэтак. Аднак сучасная навука палітычнае экономіі лучне з абсэрвацыяй экономічнага жыцьця паасобных краёў ня толькі Эуропы, але ўсяго сьвету пераконывае нас, што краёў экономічна амавыстарчальных няма і быць ня можа і гэта перадусім дзеля таго, што ані адзін край на сьвеце не валадае гэтакімі вялікімі і align рознароднымі натуральнымі багацьцямі, эксплётацыя якіх дазволіла-б яму заспакоіваць усе бяз вынятку патрэбнасьці свайго насяленьня. У консэквэнцыі мы бачым самую цесную і эканамічную залежнасьць аднаго краю ад другога, якой найбольш характэрным праявам, бяручы прыкладова, ёсьць міжнародны гандаль. Дзякуючы апошняму ўсе краі бяз розьніцы, ці яны маюць ці ня маюць палітычную незалежнасьць, уваходзяць у шырокі паміж сабой контакт і шляхам тавараабмену, атрымліваюць адзін ад другога неабюдныя сабе прадукты. Дзеля таго аднак-жа, каб

істнавала магчымасьць тавараабмену, г. зн., каб можна было прывозіць з заграніцы пэўныя неабходныя для краю тавары — трэба мець перадусім адпаведныя сродкі для іх набыцьця. Народная гаспадарка краю павінна даць пэўную надвыжку вырабляных дома прадуктаў, за якую-б можна было дастаць усё неабходнае ад заграніцы. І калі-б гэтая надвыжка, прызнаная на экспорт — ня была-б эквівалентам імпартаваных тавараў, дык, зразумела, край мусіў-бы нарушыць запасы сваіх сродкаў прадукцыі, зьядаць ня толькі працэнт але і сам капітал, што няўхільна пацягнула-б за сабой сьпярша аднабокую экономічную залежнасьць ад іншых а пасьля і дашчэнтную руіну народнае гаспадаркі. Вось-жа, ня гледзячы на немагчымасьць істнаваньня краю экономічна самавыстарчальнага ў поўным сэнсе гэтага слова, мы будземо аднак у далейшым ужываць тэрміну самавыстарчальны, экономічна самастойны, дзеля яго дагоднасьці і пад краем эканамічна самастойным разумеем гэтакі, якога народная гаспадарка дае адпаведную надвыжку вырабляных дома тавараў, за якую шляхам абмену, ён здолее атрымаць важныя і неабходныя для яго дабрабыту і экономічнага разьвіцьця тавары ад заграніцы.

Паўстае пытаньне, ці Беларусь у гэтым сэнсе можа быць экономічна самастойнай? ці народнага даходу Беларусі хопіць дзеля зраўнаважэньня ўсяго неабходнага ёй імпорту чужых, замежных тавараў? Як мы бачым, пунктам, каля якога павінны концэнтравацца ўсе досьледы ў гэтым кірунку, ёсьць азначэньне высокасьці народнага даходу нашага краю. Трэба зацеміць, што паняцьце народнага даходу наагул цесна лучыцца, у сучаснай навуцы, з паняцьцем народнае гаспадаркі, бо народны даход зьяўляецца толькі прадуктам, рэзультатам апошняе.

Спынімся дзеля гэтага ў першую чаргу на аналізе нашае народнае гаспадаркі. Аналіза гэта ёсьць трудным заданьнем, але навука паказывае нам шляхі, якімі трэба ісьці. Перадусім трэба знайсьці найбольш характэрныя сымптаматычныя галіны данае гаспадаркі, выясьніць іх значэньне, узаемаадносіны і акрэсьліць даход з кожнае. Гэтымі тыповымі галінамі для Беларусі будуць:

1) земляробства: — у найшырэйшым значэньні гэтага слова, абыймаючае гадоўлю скаціны, садаводзтва і лесаводзтва;

2) прамысловасьць і гандаль;

3) комунікацыя.

Па за імі застаецца ўжо вельмі мала ды ня іграючых ніякае эканамічнае ролі крыніцаў народнага даходу Беларусі.

Пераходзячы да аналізы паасобных галін народнае гаспадаркі, трэба зацеміць, што зь іх найбольшае значэньне мае земляробства. Статыстыка заняткаў нашага насяленьня паказвае, што 75 прац. займаюцца земляробствам і толькі 25 прац. аддаецца іншым заняткам. Гэтага ўжо досыць, каб сьцьвердзіць, што домінуючую ролю ў нашай народнай гаспадарцы іграе земляробства.

---

## І Земляробства на Беларусі.

Пад земляробствам разумеецца гаспадарская дзеяльнасьць, сутнасьць якой палягае на тым, што з мэтай вытварэньня прадуктаў могучых заспакоіць нашыя элемэнтарныя патрэбнасьці і праз адпаведнае пакіраваньне сіламі прыроды—выкарыстоўваецца разродчая сіла расьлін. У гэтым шырокім разуменьні абыймае яно агародніцтва і садавоцтва, а ў далейшым пашыраецца і на пераробку расьлінных прадуктаў пры ўчасьці разродчае сілы скаціны. Паўстаньне і разьвіцьцё земляробства дадзенага краю зележыць ад 1) прыродных абставінаў, 2) людзкае працы, 3) капіталу. Разгледзім гэтыя тры ўмовы адносна Беларусі.

1) ПРЫРОДА адыгрывае ў нас ролю як клімат і грунт. Клімат Беларусі вельмі спрыяе разьвіцьцю сельскае гаспадаркі. Ён ёсьць у нас яшчэ акіянічным, мерным. Паветраных ападкаў у нас выпадае ў сярэднім штогодна 500 м. Крыху зашмат іх у Смаленшчыне і Горадзеншчыне. Наагул-жа, дзякуючы вялізарным лясом і часткова балотам у нас зашмат вільгаці. Дзеля таго патрэбным зьяўляецца асушэньне.

2) ГРУНТЫ: З 30 міл. дзесяцін агульняе этнографічнае Беларусі, пад сельскую гаспадарку адыходзе крыху больш паловы, бо 16 міл. дз.; 10 м. дз. займаюць лясы і 4 міл. дз. прыходзіцца на балоты і розныя няўжыткі. Прастор займаны сельскай гаспадаркай дзеліцца па між ворнай зямлёй (11 м.) і сенажацямі (5 м.).

Паводде гатунку грунты Беларусі дзеляцца на:

1) падзолістыя — вельмі бедныя і благія, ляжаць у паўночнай Беларусі і іх там шмат;

2) гляістыя — (40 прац, пяску і 60 прац. глею) — найбольш ураджайныя. Іх найбольш у Слуцкім павеце, Наваградзкім, Менскім, Невельскім і Гарадоцкім;

3) суглістыя — больш пяску — добра ураджайныя. Іх шмат у цэнтральнай Смаленшчыне, паўночнай палавіне Магілёўшчыны, Віленшчыне і паўночна-заходняй Горадзеншчыне.

4) супяшчаныя — даюць добрыя ўраджаі, калі іх акуратне гнаіць. Іх яшчэ больш чымся сугліністых і спатыкаюцца яны скрось Беларусі апрача Прыпецкага і Дняпроўскага Палесься;

5) пяшчаныя (7 прац. глею, рэшта пясок) — даюць ураджай, калі іх добра гнаіць. Іх найбольш у паўднёвай Беларусі ад лініі Берасьце—Магілёў.

6) маргэльныя — шмат вапны — досьць ураджайныя але цяжкія. Ёсьць іх шмат у Наваградчыне.

7) Прырэчныя (паплавы) — найбольш спатыкаюцца у Палесьсі і ўздоўж большых рэк, — добрыя для сенажацяў, якімі і займаюцца.

8) Грунты ляжачыя на лёсе — найбольш багатыя, спатыкаюцца у паўдн.-ўсх. Беларусі.

9) Балотныя — пасьля асушкі і пры ўмелай гаспадарцы даюць добрыя ўраджаі траваў і збожжа.

З гэтых 9 розных гатункаў грунту, спатыканых на Беларусі домінуючую ролю іграюць найбольш ураджайныя зь іх: с у г л і н а к, с у п я с о к і г л е й; падзол—найменш ураджайны займае вельмі мала месца, затое шмат ёсьць грунтаў пяшчаных.

Наагул-жа адносна прыродных абставінаў для земляробства на Беларусі, трэба сказаць, што яны кваліфікуюцца як д а г о д н ы я для разьвіцьця апошняга. З эўрапэйскіх краёў у гэтым сэнсе Беларусь найбольш прыпамінае Нямеччыну. Як у апошняй, гэтак і ў нас спатыкаюцца тыя-ж самыя грунты і разводзяцца тыя-ж расьліны. Восьжа прыродныя абставіны Беларусі ня будучы вельмі дагоднымі а толькі дагоднымі да разьвіцьця земляробства, вымагаюць значнае і ўмелае працы ад чалавека.

Праца чалавека — другі варунак належнага разьвіцьця земляробства — мае ўсюды а значыцца і на Беларусі падвойны характар: а) у м ы с л о в ы — які палягае на ўмелай арганізацыі і кіраўніцтве гаспадаркай і 2) ф і з ы ч н ы. Праца умысловая нашага земляроба мае вельмі нявысокую марку. Наш селянін вядзе сваю гаспадарку натуральным спосабам, здабыткі навукі для яго няведамы, часта-ж ён ня мае магчымасьці іх стасаваць, часам-жа проста ня хоча. Падобнае ігнараваньне іх змушае яго да вельмі цяжкай фізычнай працы і не дае яму магчымасьці з аднаго боку аблягчыць апошнюю, а з другога павялічыць яе прадукцыйнасьць.

Пераходзячы да 3-га варунку неабходнага для разьвіцьця земляробства — к а п і т а л у — трэба адзначыць, што капіталам мы называем усе складовыя часткі маемасьці гаспадара, якія служаць да лепшага скарыстаньня і павялічэньня заработку. У земляробстве важнымі капіталамі зьяўляюцца: к а п і т а л з я м л і, м э л ь я р а ц ы й н ы (равы), б у д а ў л я н ы (будынкі), л я с н ы, і н в э н т а р п о л ь н ы, д з і ч і р ы б ы, і н в э н т а р ж ы в ы, з е м л я р о б с к і я м а ш ы н ы, з а п а с ы с е н а, з б о ж ж а і г. д. ф р у к т о в ы я д р э в ы і г р а ш а в ы я з а п а с ы.

Спынімся прадусім над к а п і т а л а м з я м л і і м э л ь я р а ц ы й н ы м, разглядаючы іншы ў адпаведных месцах.

К а п і т а л з я м л і. Прыймаючы пад увагу, што этнографічная Беларусь займае 30 міл. дзесяцін зямлі, што нашы балоты і няўжыткі нават пры вельмі нязначных грашовых накладах на асушку робяцца добрымі грунтамі, урэшце, што насяленьне нашага краю не перавышае і 12 міл., можна сьмела сказаць, што пры адпаведнай, а д н а л і т а й п а ў с і м к р а ю і з г о д н а й з і н т а р э с а м і н а ш а г а н а р о д у з е м л я р о б с к а й п а л і т ы ц ы, аб ніякім з я м е л ь н ы м г о л а д з е н а Б е л а р у с і, я к і а б э м і г р а ц ы і я е н а с я л е н ь н я — н е м а г л о-б б ы ц ь м о в ы. Аднак сяньня наш селянін адчувае вялікі недахоп зямлі і гэта дзеля наступных прычын:

1) У Зах. Беларусі—павольная і наагул некарысная для нашага сялянства зямельная рэформа і асаднiцтва.

2) У Усх. Беларусі — затрыманьне пераважнае большасьці быўшых панскіх двароў пад калектывы і соўхозы. Малазямельныя атрымалі дарэзкі, але вялікія дворныя абшары засталіся непадзеленымі.

Апрача гэтага і там практыкуецца асадніцтва жыдоўскага і расейскага элемэнту на беларускіх землях.

3) Абсалютная інэртнасьць што да прадпрыняцьця якіх колечы на шырэйшую скалю мэльярацыйных працаў для асушкі нашых балот і ўрэшце

4) гэтак на ўсходзе як і на заходзе—недапушчаньне да разьвіцьця нашае прамысловасьці, хоць апошняя мае добрыя варункі для свайго разьвіцьця, прынамсі важнейшыя яе галіны, і бяз сумліву адцягавала-б да сябе надмер людпасьці з мейсца, дзе-б ён паўставаў. Гэтыя прычыны спраўляюць, што наш сялянін сяньня забясьпечаны зямлёй вельмі блага. Ня лепш прадстаўляецца справа і з капіталам мэльярацыйным. Належнаму стасаваньню апошняга стаіць на перашкодзе перадусім самая сыстэма гаспадараваньня нашага сялянства. Трохпалёўка не дазваляе на значнейшыя мэльярацыйныя працы напр. асушку, лепшы пладазьмен і г. д. Як у нас прадстаўляецца справа з мэльярацыйнымі працамі і наагул удабрэньнем зямлі сьведчаць наступныя статыстычныя дадзеныя: На 1 га ворнае зямлі ў нас ужываецца ў сярэднім (Зах. Бел.) 0,51 кл. азотніку, калі тымчасам Пазнань мае аж 25,19 кл. Субвэнцыі Міністэрства Земляробства гэтак сама прыдзяляюцца ў 28—29 г. у неадпаведна нізкай скалі. Гэтак на 3.500.000 зл. празначаных на паляпшэньне земляробства ўва ўсей Польшчы,— на Зах. Бел. прыходзілася 321.000 зл., калі на кангрэсоўку аж. 1.143.000 зл. Наша сялянства дзеля недахопу грашовага капіталу ня можа само вясьці, без адпаведнага крэдыту, нават у малым маштабе мэльярацыйных прац, якім, як гэта зазначана вышэй, стаіць на перашкодзе і сама сыстэма гаспадаркі.

Рэасумуючы ўсё сказанае аб трох неабходных для належнага разьвіцьця земляробства Беларусі дзейніках — прыродзе, людзкой працы і капіталу можна вывесьці наступныя канклюзіі:

1) Прыродныя абставіны наагул дагодныя для разьвіцьця нашага земляробства, неабходнай аднак-жа зьяўляецца асушка пэўных абшараў і балот дзеля зьмяншчэньня вільгаці.

2) Праца чалавека пакідае ў нас шмат пажаданьняў яе паляпшэньня, асабліва умысловая, якая ў прыпадку яе рацыяналізацыі здолее значна аблягчыць цяжкую і мала прадукцыйную фізычную працу селяніна.

3) Справа з капіталам прадстаўляецца найгорш—не хапае аснаўных капіталаў для належнага разьвіцьця земляробства—капіталу зямлі і мэльярацыйнага.—

Па гэтых разважаньнях пераходземо да разгляду паасобных галін земляробства і з іх на першым месцы паставім прадукцыю збожжа і тэхнічных расьлінаў. Беларусь мае 11 міл. дз. з чаго на Заходняю Беларусь каля 4 міл. і на Ўсходнюю 7 міл. Трэба адзначыць, што сельская гаспадарка Беларусі шыбка разьвіваецца і з 1887 г. па 1916 агульная плошча пад засевы павялічылася на 50 прац. Адначасна на ўсей Беларусі зьменшылася плошча, займаная

збажовымі расьлінамі, пераважна жытам і аўсом а павялічылася плошча лёну, бульбы і іншых тэхнічных расьлінаў (з 87 прац. да 73,6 прац.) Агульны прац. інтэнсыўных культур дайшоў у 1916 г. да 26,4 прац. і пад гэтым поглядам Беларусь займае першае месца сярод сваіх суседзяў. Лён мае пераважна экспортнае значэньне, бульба стварыла асновы для нашай гарэлачнай прамысловасьці і лучна з кармовымі травамі служыць для гадоўлі скаціны. Трэба такжа адзначыць, што адначасна з узростам плошчы кормавых траваў павялічылася коштам лясоў і няўжыткаў плошча натуральных сенажацяў з 10,7 прац да 18,6 прац. і па багацьцю сенажацямі Беларусь займае 1-ае месца сярод сваіх суседзяў, што як пабачым ніжэй, зьявілася асновай разьвіцьця гадоўлі скаціны.

З збажовых расьлін на Беларусі сеюць жыта, авёс, ячмень і пшаніцу. У Зах. Бел. яны займаюць на кожны 1000 гак. ад 666 да 705 гак. тэхнічныя: бульба ад 134—206 гак. (Палесьсе), лён ад 13 да 51 гак. (Вільня), канаплі—08, (Наваградчына) да 4,1 (Палесьсе), кармовыя травы (канюшына)—ад 33 гак. (Беласточчына.) да 83 гак. (Навагр.).

У Усх. Бел. статыстычныя (перадваенныя) дадзеныя абапёртыя на іншых асновах. Гэтак у 1916 г. на 100 гаспадарак з агульнаю плошчаю засеваў—380 дз., збажовыя займалі 2,98 гак., тэхнічныя—лён—25; бульба—32, травы—20, канаплі—5,5.

Статыстыка з 1923 г. паказывае, што плошча агульная пад пасевамі перавысіла плошчу з 1916 г. у сярэднім на 5 прац. Менш аднак-жа сеецца кормавых траваў па усей Усх. Бел. і лёну ў тэй яе частцы, што не далучана да БССР.

Ураджайнасьць грунтаў у Зах. Бел. найлепшая ў Беласточчыне (10 q. з гак.) пасьля Наваградчына і Палесьсе (8,5 гак.) і ўрэшце Віленшчына (6,2).

Пазнань—17,8 q. з гак. Сярэдняе для Польшчы 12 з гак. Што да збораў Усх. Бел. дык нажаль няма адпаведных статыстычных матэр'ялаў.

Калі-ж аднак, мы паставім пытаньне, ці агульны збор зернавых хлябоў можа заспакоіць патрэбнасьці ў іх нашага насяленьня, дык адказ будзе дадатні. Праўда, перадваенная статыстыка выказывала, што па хлебнаму білянсу Беларусь мела штогодня невялікі дэфіцыт, які раўняўся—3,16 м. q., г. зн 0,4 q. на кожнага жыхара а ў адносінах на адно сельскае—0,08 q. (па поў пуда) на душу ў год. Зьявішча гэтае лёгка тлумачыцца (войска.) Пацьвярджае гэтае і той факт, што калі пасьля вайны на беларускіх землях на ўсходзе стаяла менш войска,—Усх. Бел. у 1923 г. ня толькі абышлася сваім хлебам, але і вывезла ў Расею невялікую, праўда, надвыжку.

З тэхнічных расьлінаў трэба перадусім спыніцца над культурай лёну, канаплёў і бульбы.

Лён. На 114.079 гак. займаных штогодна лёнам у Польшчы на Зах. Бел. прыходзіцца дзьве трэція ўсяе плошчы, пры гэтым найбольш сеяцца яго ў Віленшчыне (38.760 гак.) а найменш на Палесьсі. (12.051) Лён прызначаецца перадусім на прадажу і экспорт. У 1928 г. агульны экспорт лёну з Польшчы—162.087 q. з чаго на Зах. Бел. адпаведна да яе льнянае плошчы прыходзілася-б каля 108.000 q. Экспорт лёну

ў Усх. Бел. у 1913 г.—3.913.000 пуд., у 1922—459.000. У 1913 г. вартасьць экспартаванага лёну У. Б. =38.800 зл. Управай лёну займаюцца 90 прац. дробныя земляробы і самі яго прыгатаўляюць на прадажу. Беларускі лён наагул і асабліва валожынскі, глыбоцкі, сьвянцянскі знаюць добра Чэхія і Нямеччына і ён мае там сталыя цэны, якія зьмяняюцца толькі ў залежнасьці ад зьмены агульнае гаспадарчае коньюнктуры. Паміма, аднак-жа, што беларускі лён здабывае сабе штораз шырэйшыя рынкі, ён ня мае яшчэ выробленае маркі дзеля наступных прычынаў:

1) Культура нашага лёну на прадажу заграніцу знаходзіцца ў пэрыядзе свайго разьвіцьця, дзеля чаго марка яшчэ ня здолела вырабіцца.

2) Дробныя продуцэнты лёну не разумеюць яшчэ, якое вялікае значэньне мае высыланьне на рынак **толькі** добрага тавару і няраз дастаўляюць лён з дамешкамі.

3) З поваду прымітыўных сродкаў тэхнічных, лён чыста не выробляецца.

Гэтак сама выдайнасьць валакна і семя з гак. ў нас нізкая дзякуючы дрэннай управе, прымітыўнаму спосабу выдабываньня і сушэньня валакна і ўрэшце неўрэгуляваньню справы гандлю семям. Нашы земляробы няглыбока аруць, ня гноюць зямлі пад лён, ужываюць на сяўбу нячыстые зерняты і квэстыя рацыянальнага пладазьмену мала каму з іх ёсьць знанай. Дзеля гэтых прычын цэны на наш лён заграніцай сьмешна нізкія ў параўнаньню з цэнамі на лён з тых краёў, дзе льняная гаспадарка пастаўлена рацыянальна. Неабходным дзеля гэтага зьяўляецца цэлы шэраг паляпшэньняў тэхнічнага характару што да культуры лёну і разьвіцьця ў нас алейнае прамысловасьці. Трэба зацеміць, што Беларусь консумуе значна кожны год льнянага алею, які прывозіцца да сябе з заграніцы, дзе ён выробляецца з семя вывезенага з Беларусі.

Што да значэньня ўправы лёну, дык можна сказаць, што яно ёсьць і можа быць у прышласьці колёсальным, калі на Беларусі разаўецца краёвая-ж **ткацкая** прамысловасьць, сырызнай для якой ён будзе. Сяньня лён затрудняе работнікаў і зьяўляецца паважнай пазыцыяй у нашым экспорце.

Наступная тэхнічная расьліна—бульба,—мае вельмі шырокае распаўсюджаньне і значэньне. У 1926-27 г. у Зах. Бел. прадукцыя яе = 38 міл. q. а ў Усх. Бел. 159.100 тонн. Штогодняя яе падвыжка прызначаецца на экспорт у форме гарэлкі і крахмалу. Гэтак у 1928-29 г. у Усх. Бел. 90.000 тонн бульбы перароблена на алькаголь і крахмал (23 фабрык крахмаляў і 65 бравароў). Экспортам бульбы ў Усх. Бел. займаюцца пераважна Белсельсаюз, Белкаапсаюз, Белсельтрэст. Заграніцай, а спэцыяльна ў Нямеччыне, Чэхіі і Латвіі ёсьць паважны попыт на бел. крахман. Дзяржавы гэтыя закупілі ў 1928 г. у Белсельтрэсьце каля 150 вагонаў крахмалу. Адна з найвялікшых фабрык крахмалу знаходзіцца ў Тольчыне Аршанскага пав. Фабрыка гэта, якую выбудавана паводле найнавейшых вымаганьняў тэхнікі коштам 300.000 р. і пушчана ў рух у лютым б. г. ёсьць уласнасьцю Белсельтрэсту.

Яна перарабляе 5000 пудоў бульбы ў дзень, ці ў часе сэзону 1.000.000 п. Новыя фабрыкі крахмалу маюць збудаваць у Бабруйскай акрузе і Гомелі.

Рэасумуючы ўсё вышэй зказанае аб прадукцыі збожжа і тэхнічных расьлін на этнографічнай Беларусі мы даходзім да наступных конклюзыяў:

1) Прадукцыя збожжа на Беларусі не разьлічана на экспорт а толькі на заспакаеньне патрэбнасьцяў у збожжы ўласнага насяленьня. Сяньня збожжа сеецца і зьбіраецца ў колькасьці, амаль хапаючай на заспакаеньне ўласных у ім патрэб. Бяз сумліву пры павялічэньні капіталаў мэльярацыйнага і лепшым удабрэньні зямлі Беларусь будзе мець значную надвыжкv зернавых хлябоў, якую зможа вывозіць заграніцу.

2) Экспортнае значэньне мае на Беларусі культура тэхнічных расьлінаў як лён, каноплі, бульба. Роля фінансовая гэтых прадуктаў у агульным экспорце Беларусі велмі важная і бяз сумліву яна ўзрастае і будзе высокай крыніцай нашага народнага даходу пры ўвядзеньні лепшых, згодных з вымаганьнямі навукі і тэхнікі, спосабаў управы гэтых расьлінаў.

3) Найважнейшая затым галіна нашае нар. гаспадаркі—земляробства здольная ня толькі заспокаіць нашы патрэбы ў хлебе, але дае значную надвыжку ў форме тэхнічных расьлін, якая з аднаго боку можа быць экспартованай заграніцу і з другога—стацца моцнай асновай для разьвіцьця ткацкае прамысловасьці ў краі, што ўжо мела-б для Беларусі вялізарнае значэньне ў сваіх консэквэнцыях.

(ПРАЦЯГ БУДЗЕ.)

# РЭФЛЕКСЫ I.

11-га траўня г.г. адбыўся Агульны Гадавы Сход сяброў Беларускага Студэнскага Саюзу. Апрача многіх сваіх унутраных справаў, Агульны Сход разглядаў адну вонкавую справу, справу вялікае вагі для нашага Студэнства, а гэта—справу ўваходу ў Беларускі Нацыянальны Камітэт. Пасьля гарачае дыскусыі на гэтую тэму за і проціў, Агульны Сход прыступіў да галасаваньня над гэтай справай і большасьцю галасоў прапазыку ўваходу ў Беларускі Нацыянальны Камітэт адкінуў. Чым кіраваўся Сход робячы гэтак? Як ён мог адкінуць прапазыку, якая заклікала яго ў Нацыянальную рэпрэзэнтацыю, у Народны аўтарытэт? Так напэўна скажуць і гавораць тыя, якія сяньня і начай ня могуць глядзець на нашае жыцьцё, як праз акуляры *палітыканства*. Не кажу палітыкі, бо палітык скарэй-бы стараўся з гэтага факту выцягнуць якую колечы лёгічную інтэнцыю студэнства ў дакананьні яго, інтэнцыю апраўдываючую гэты паступак, чымсьці бяз дай рацыі зачаў выдумліваць студэнству розныя закіды. Палітыка-ж гэта ёсьць уменьне кіраваць справамі народу ў пазытыўным кірунку, у дасягненьні яго ідэалаў. Гэта ёсьць уменьне бачыць і прадбачыць усе зьявы жыцьця, падсумоўваць гэтыя зьявы і застасовываць іх да

сваіх паступкаў. Палітыка жывець будучыняю. Падлічываець яна плюсы і мінусы ў жыцьцю і ў будучыні, стараецца зніштожыць мінусы, а павялічыць плюсы. Палітыканства, наадварот, жывець сяньняшнім днём і лічыць у ім толькі плюсы; нічога не прадбачыць і нічога не спадзяецца, часта густа шкодзіць палітыцы, а нават з прычыны сваей вялікай нагласьці, часта і зусім заглушаець палітыку. Тэорытычнага пагляду на гэтае „monstrum“ сучаснага жыцьця зусім няма, бо гэта ёсьць кірунак створаны праз тых і для тых, якія нічога супольнага ня маюць ні з тэорыяй ні з навукай; палітыканіць можа кожын, палітыку вясьці—толькі выбраны. Каб нашыя палітыканы прадбачылі вынікі свайго палітыканства, дык яны не распачыналі-б яго і тагды былі-б палітыкамі.

Але вернемся да істотнай рэчы і разгледзімо глыбей факт неўваходу Беларускага Студэнскага Саюзу ў Нацыянальны Камітэт. Каб больш дакладна высьвятліць тыя матывы, якія кіравалі студэнствам у дакананьні гэтага факту, неабходным зьяўляецца высьвятліць, што такое нацыянальны камітэт, як інстытуцыя.

Вось-жа нацыянальны камітэт гэта ёсьць інстытуцыя народнага прадстаўніцтва, народнага аўтарытэту, які рэпрэзэнтуець сабою ўвесь народ, яго волю і яго патрэбы. Стоючы на варце інтарэсаў данага народу, нацыянальны камітэт больш менш заступаець для ўцісканых народаў парлямант, з тою толькі розьніцаю, што ў парлямэнце куецца доля народу-дзяржавы, у нацыянальным камітэце пільнуецца інтэрас народу-нацыі. У парлямэнт уваходзяць прадстаўнікі ўсіх партыяў і нацыяў, у нацыянальны камітэт уваходзяць прадстаўнікі ўсіх кірункаў і сьветапаглядаў данае нацыі. Як у парлямэнце, так і нацыянальным камітэце прынята прызнаваць волю большасьці, як абавязваючую. З гэтага ўжо вынікаець, што ня можна узурпаваць права да парляманту, як і да нацыяльнага камітэту аднэй якой колечы групе, бо гэта з аднаго боку было-б вялікаю несправядлівасьцю у адносьшаньні да другіх групаў, разумеецца, калі гэтая узурпацыя будзе апірацца на якой колечы сіле, на якой колечы санкцыі, бо ў праціўным выпадку даная інстытуцыя наагул траціць зусім свой аўтарытэт. З другога боку узурпацыя бяз санкцыі, давяла-б да паўстаньня розных парлямэнцікаў, і камітэцікаў, якія-б ужо ня служылі да абароны агульных інтарэсаў, а былі-б на ўслагах абароны інтарэсаў паасобных групаў, ці адзінак, уводзючы гэтым самым у жыцьцё поўную дэструкцыю і дэзорыентацыю. Як бачымо ад цэласьці рэпрэзэнтацыі, ад яе адзінасьці залежыць яе павага. Так нацыянальны камітэт як цэласьць—гэта кузьня прышласьці народу, гэта яго воля, яго галава.

Ці-ж бы нашае студэнства, разумеючы гэткую вялікую вагу нацыянальнага камітэту ў жыцьці нашага народу, не захацела ў яго ўвайсьці? Не! па сто разоў не! Ані першае, ані другое, ані трэйцяе-не! *Сталася гэта таму, што большасьць яго яшчэ не зацягнутая ў рады палітыканства, больш трэзва, можа больш ідэальна глядзіць на справы і патрэбы нашага жыцьця і больш чынна і чула прыймаець іх да сэрца.* Гэтая большасьць — гэта ёсьць далейшы працяг таго студэнства,

якое ў колішнія часы запачаткавала нашае нацыянальнае і сацыяльнае адраджэньне і вызваленьне. Гэта ёсьць далейшы працяг таго студэнства, якое калісьці збудзіўшыся з вякавога сну, накінутага праз нашых „добрых суседзяў“ узяло паходні народнае праўды ў рукі і пашло заклікаць гэты народ да змаганьня ў імя справядлівасьці. Дзякуючы таму студэнству, якое дало з сябе сапраўдных сыноў зямлі, павадыроў народу, народ наш, перакіданы з рук у рукі, крояны на кавалкі, яшчэ ўсё-ж такі ня зблудзіў. Ён бачыць тую пуцяводную, сьветлую зорку, бачыць шлях, выткнуты яму праз яго лепшых сыноў, імкнецца наперад па гэтым шляху і будзе імкнуцца аж покуль не дасягне свае мэты—вызваленьня.

Дзіўная рэфлексыя! — чаму ўсё-ж такі студэнства не захацела ўвайсьці ў Беларускі Нацыянальны Камітэт? Трэба было быць на сходзе, трэба было бачыць, як цяжка падыймаліся рукі проціў уваходу, але нешта іх цягнула ўверх, нешта ім казала так рабіць, — о, гэта нешта, была інстыктоўная сьведамасьць, сьведамасьць балючая і прыкрая, якая казала: *у нас няма свайго Нацыянальнага Камітэту*, няма такога які ён павінен быць. І дарэмна былі ўвагі некаторых сяброў Саюзу, асабліва аднаго з іх, неразважных калегаў, захварэўшага на бацылу палітыканства, які хочучы зрабіць некі закід сябром Саюзу, гэтым самым зрабіў закід сабе, закід, нясьведамасьці і аднастароннасьці пагляду на праявы нашага жыцьця, як цэласьці. Паўтарыў ён толькі сваімі славамі лёзунг нашых ворагаў —„Divide et impere“. І дарэмная была зацемка ў „Беларускай Крыніцы“, зацемка, якая казала, што з незалежніцкіх і радыкальных кірункаў ніводзін студэнт ані ў Урад ані ў Рэвізыйную Камісію ўвайсьці не згадзіліся — яшчэ адно „divide et impere“.

Бо-ж зацемку гэтую ўжо цалком трэба залічыць у рубрыку абсурднае дэмагогіі, разьлічанае на сяўбу палітыканства, на падтрыманьне школкі штучнага разводу яе бацылаў. Бо хто бліжэй знаець студэнства, хто бліжэй прыглядаецца яго працы, а злашча хто бліжэй знаець статут Беларускага Студэнскага Саюзу, той не пасьмеець выкідаць пад адрэсам студэнства падобных бессэнсоўных зацемак, той не пачнець дашуквацца на грунце Саюзу яіх колечы групавых розьніцаў. Статут Саюзу кажа аб ім, як аб каляжэнскай арганізацыі, маючай на мэце сужыцьцё і самаўзгадаваньне яго сяброў; выпрабленьне ў іх грамадзкае сьведамасьці пры помачы зразуменьня ідэалаў і патрэбаў нашага народу, шляхам падняцьця інтэлектуальна сваей раўні. З гэтага вынікаець адзінасьць гэтае арганізацыі, яе непадзельнасьць і самастойнасьць. Агульны Сход Сяброў зьбіраецца раз у год і маець заданьне абсудзіць працу Саюзу за прайшоўшы год, вырабіць плян працы на наступны год і выбраць Урад Саюзу, які-б гэты плян зьдзейсьніў, а Рэвізыйную Камісію, якая-б правільнасьці гэтае працы дапільнавала. І тут бачым адзінасьць і непадзельнасьць. Ня ёсьць гэта сход „групаў“, а агульны сход Сяброў Саюзу. І дзе-ж тагды нашая хрысьціянская газэта знайшла гэтыя групы, бадай толькі ў галаве свайго рэпартэра. Дый і што маюць значыць словы „...ані ў Урад, ані ў Рэвізыйную Камісію ўвайсьці *не згадзіліся*“? У Саюзе

няма гэтакае надсаюзнае адзінкі, якая-б прасіла згоды яго сяброў на пачэснае мейсца сябры Ураду ці Рэвізыйнае Камісіі. Тут ёсьць толькі абавязак кожнага сябры Саюзу, абавязак, які яму кажа, калі ён чуецца прыгатаваным,ісьці ў Урад і там працаваць, агульны сход (ня групы) ўжо большасьцю галасоў дэцыдуець ці даны сябра, які пачуваецца да абавязку увайсьці ў Урад, надаецца да працы, ці не. Так тут рэдактары зацемкі зусім не здавалі сабе справы аб плыткай яе сутнасьці; як гэтак сама не здаюць сабе справы з вялікай сутнасьці і значэньня Нацыянальнага Камітэту. Але ў жыцьцю ёсьць закон вялікі, закон перамогі дабра над злом, свету над цемраю. І нашае студэнства верыць інтуіцыйна, верыць у тое, што і ў нас гэты закон зьдзейсьніцца. У гэтай веры студэнства трэба бачыць лёгічнасьць яго паступкаў, яго здаровыя погляды на жыцьцё нашага народу, погляды можа больш інтуіцыйныя чымсьці разумовыя; бо ў хаосе сяньняшняга нашага жыцьця, дзе аўстрыяцкая максіма „divide...“ дапяла свайго кульмінацыйнага пункту, розумам не разьбярэшся. Тут ёсьць патрэбная інтуіцыя, патрэбны ёсьць здаровы інстынкт, які мацнейшы ёсьць над выдуманыя фразы людзёў, які зьяўляецца часткаю абсалюту дабра і справядлівасьці. І хай тыя, якія стаяць сяньня ў розных рульлёх нашага грамадзкага жыцьця, хай не дашукваюцца „групаў“ сярод студэнства, а хай ляпей пастараюцца выйсьці самі з гэтага зачараванага кола, у якім яны знаходзяцца, хай прычыняцца да аздараўленьня нашага грамадзкага жыцьця, хай створаць адзіны Нацыянальны Камітэт, або прынамся ў статуце цяперашняга Нацыянальнага Камітэту, хай унясуць папраўкі, што ўсе арганізацыі, якія зарэгіструюцца ў прэзыдыуме, аўтаматычна ўваходзяць у гэты камітэт і тагды паглядзімо ці студэнства трэба будзе запрашаць туды.

*Міхась Тулейка.*

---

СТ. СТАНКЕВІЧ.

# ШАНУЙМА НАРОДНЫЯ ВАРТАСЬЦІ!

Кожны народ стоючы на вышыні поўнае сьвядомасьці сваіх заданьняў, заўсёды належна цэніць і прыпісывае вялікую пашану ўласным народным вартасьцям, будучым доказамі ягонае сьветласьці і сілы. Пашана ўсяго таго, што ёсьць выяўленьнем народнага духа і сымболем агульнанароднага „я“ мае за сабой у паняцьці і разуменьні розных народаў, так даўную і багатую традыцыю, як доўгай і багатай ёсьць гісторыя дадзенага народу. Пашана народных вартасьцяў ня ёсьць урэшце вузкім шавінізмам, як можа некаторыя стараліся-б даказываць, а зьяўляецца вылучна доказам зразуменьня сваей годнасьці, пашаны да самых сябе, якая выплывае з глыбокага пакаханьня свайго народу і ўсяго таго, што ёсьць для гэтага народу сьвятасьцяй.

Праўда, часамі той ці іншы народ, будучы ў стане ненармальнае адсталасьці ад жыцьця, выкліканай неспрыяючымі гістарычнымі

абставінамі, народ цёмны і неасьвечаны, несьвядома адносіцца з пагардаю да ўсяго таго, да чаго мусіў-бы чуць вялікую пашану.

У такім выпадку абавязкам тых, якія стаяць на чале народу і вядуць гэты народ да самапазнаньня, ёсьць вучыць народ любіць самога сябе і свае народныя вартасьці і даваць да гэтага прыклад з уласнага жыцьця.

У нас Беларусаў, трэба з сумам сьцвердзіць, што некаторыя яшчэ да апошніх дзён не навучыліся шанаваць сваіх народных вартасьцяў, а гэтым самым не навучыліся шанаваць самых сябе.

Нармальны народны сьветапагляд грамадзянства і выплываючая адсюль яго творчая народная праца будзе мець пад сабой трывалыя асновы толькі ў тым выпадку, калі мы здабыткі сучасных дзён лучым з традыцыяй прошласьці і не адрываемся такім спосабам ад цэласьці народнага жыцьця. А ў нас трэба прызнаць, што тая багатая мінуўшчыня Беларусі часоў Полаччаны, потым век Скарыны і Льва Сапегі часоў Вялікага Беларуска-Літоўскага Князьства ці ўрэшце недалёкая гісторыя нашага адраджэньня, у як вялікай меры для многіх з нас зьяўляецца чужой і забытай. Адным словам у духовым жыцьці нашага грамадзянства няма належнай арганічнай цэласьці паміж сучаснасьцяй і прошласьцю.

А адсюль часта выплывае брак пашаны для гэтае сьветлае традыцыі, брак яе вывучэньня, што бяссумліўна ёсьць непараўнальна вялікім мінусам. Дзеля прыкладу можна прывесьці хоць-бы той факт, які быў выкліканы сёлета абходам чатырохсотлецьця Літоўскага Статуту, калі некаторыя з беларускіх згуртаваньняў, кіруючыся дробнымі мэтамі, на перакор гістарычным праўдам, стараліся сьвядома адмовіць першаму дзяржаўнаму кодэксу нашага гаспадарства — „Літоўскаму Статуту" таго беларускага характару, які прызнаюць ня толькі беларускія вучоныя, але і аб'ектыўныя навучныя сілы іншых народаў. Гэтак з „Літоўскім Статутам", а ці-ж мала роблена падобных недарэчнасьцяў з іншымі памяткамі нашай сьветлай мінуўшчыні?

Сюды таксама трэба аднесьці і брак належнае пашаны да свае роднае беларускае мовы, да тае мовы, якая ў цяжкія хвіліны нашага заняпаду была адзіным паказальнікам народнае жывучасьці, а якая потым у адраджэньні народу адыграла аграмадную ролю, напамінаючы народу аб яго сьветлай і багатай прошласьці. А сяньня многа мы яшчэ знойдзем такіх, што ня толькі сябе прызнаюць Беларусамі, а ўважаюць сябе за беларускіх дзеячоў, якія *добра ня ведаюць беларускае мовы.*

Няўжо гэта ёсьць нармальным зьявішчам?—хай падумае кожны і дасьць сабе адказ у сваей душы.

Але найбольш можа прыкрай у гэтай галіне ёсьць справа ня толькі браку пашаны, але нават сьвядомая насьмешка над уласнымі народнымі вартасьцямі. Сюды трэба аднясьці факт *прафанацыі беларускага ваяцкага гымну* праз „Беларускую Крыніцу". „Беларуская Крыніца" ў № 18 з дня 16—V—30 г. ганебна спрафанавала беларускі ваяцкі гымн — „Мы выйдзем шчыльнымі радамі на вольны родны свой прастор", гымн, які пяяўся першымі беларускімі вайсковымі радамі,

а які глыбінёй натхненьня і веры ў уласныя сілы здабыў вялікую павагу сярод беларускага грамадзянства, стаўся свайго роду сьвятасьцяй. Вось-жа ўспомненая часопісь лёгкадумна перакруціўшы ў ім некаторыя словы, ад чаго зьмест выйшаў вельмі гумарыстычны, ды назваўшы „Польска-беларускім санацыйным гымнам“ пусьціла яго на сваіх старонках у сьвет.

Праўда можна рабіць розныя гумарыстычныя насьмешкі над сваімі ідэолёгічнымі праціўнікамі, ужываючы да гэтага розных знаных песьняў і вершаў, *толькі не адпавядаюць гэтаму народныя гымны — народныя сьвятасьці*!

І калі-б так сталася сярод народу маючага ўласную дзяржаву, то за такія рэчы спраўцы гэтага былі-б пацягнуты да судовае ад казнасьці.

У нас-жа, калі няма яшчэ сваей уласнай дзяржавы, няхай адносна гэтага факту загаворыць народная апінія.

І калі знаходзяцца яшчэ ў нас сярод старэйшага грамадзянства, ганьбячыя сьвядома свае ўласныя народныя вартасьці, то хай прынамсі моладзь — студэнства зьверне на гэта належную ўвагу і, ня ўпрыклад некаторым старэйшым, хай навучыцца належна шанаваць і цаніць усё тое, што ёсьць для нас агульнанароднай сьвятасьцю.

# Пару слоў аб Музэі Беларускага Навуковага Таварыства ім. Івана Луцкевіча ў Вільні.

Ужо доўгія гады ў старых заплясьнелых сьценах муроў Базыльянскіх месьціцца Музэй ім. Івана Луцкевіча. Шмат памятнікаў гістарычна-этнаграфічных, шмат багацьця крыецць ён у сабе. Багацьце гордасьці народнае, багацьце нашай слаўнай мінуўшчыны, сабранае амаль вылучна высілкамі і працаю аднаго чалавека, усім і кожнаму кажэць, што і мы людзі—маем чым пахваліцца перад другімі, што і мы маем што паказаць сьвету. Бяда толькі і гора нашае, што гэтыя вялікія цэннасьці роднае зямлі змушаны валяцца ў куравых і заплясьнелых мурох, зданыя на ласку і няласку архіўнае молі. Калі гэтак і далей будзе, то можа зблізіцца час ракавы, дзе гэтых цэннасьцяў-памятнікаў нішто не ўратуець, ані старанная кансэрвацыя, ані вялікі наклад працы, брата нябошчыка Івана, Антона Луцкевіча. Але-ж ці нашая ў гэтым віна? Гаспадары нашыя нясуць за гэта адказнасьць вялікую. Яны яшчэ і дагэтуль ня могуць уцяміць сабе, каб тое, што знайходзіцца ў руках Беларускіх дый мела некую вартасьць асаблівую, патрабуючую ўвагі. Праменьні „Захадняе Культуры“ якосьці неасьвячаюць надта-ж асьвечаных галоў, як гэтак сама і не пранікаюць у казаматы муроў Базыльянскіх, не зніштажаюць там плесьняў—матыліцы, ані молі, якая нішчыць дабытак ня толькі ўжо-б чыста беларускае, але і агульна людзкае культуры. Прызнаная праз Раду Магістрату места Вільні дапамога ў ліку 1,500 зал., яшчэ не ратуець

сытуацыі. Крошка упаўшая са стала яшчэ не заспакоіць цалком патрэбы. Тут надалася-б сталая і старанная апека з боку пануючай нацыі, не апека, якая-б сваею пасыўнасьцю даводзіла добрыя зачаткі да руіны, а наадварот, якая-б гэтыя зачаткі старалася выгадаваць у больш мацнейшую і лепшую хворму. Ці-ж не аджыла ўжо свайго веку максіма:—што нашае—ўсё добрае, што вашае—ўсё благое; трэба памятаць, што апроч вашага і нашага, ёсьць яшчэ нешта вышэйшае. Але хіба ўжо даволі аб гэтым, прышлося к слову, дык і выказаў чалавек усё ад душы. Сутнасьць-жа гэтае зацемкі ня ў гэтым. Тут якраз хацелася-б да гэтага пытаньня нашай мінўшчыны падыйсьці з другога боку. Хацелася-б крыкнуць да нашае правінцыі, голасам моцным і зразумелым. Хацелася-б прыцягнуць да супрацоўніцтва зьбіраньня памятак нашага прошлага ўсіх тых, хто маець гонар называць сябе Беларусам. Адзін чалавек сабраў гэтулькі рэчаў, што аж пазволіў сабе залажыць музэй. Нашым абавязкам зьяўляецца прыкінуць у дзесяць столак гэтулькі, кяб гэты музэй агарнуў у сабе ўсё, што толькі было і ёсьць на нашай зямлі. Бываюць-жа і ёсьць выпадкі, што чалавек капаючы сабе яму на пограб, альбо студню, альбо капаючы торф у балоце ці наагул гаручы возьме дый натрапіць на якую колечы рэч: на зброю, на які колечы шкелят асаблівы, зьвярыны няведамае ў тоё ваколіцы альбо на якую колечы труну нязнанаю і не спатыканаю ў тых мяйсцох, і заместа таго, каб гэта забраць і паказаць сьведамаму чалавеку, ён возьмець дый зусім ня зьвернець на гэтую рэч увагі, альбо калі і зьвернець на знойдзеную рэч увагу і забярэць яе да хаты, дык ня знаючы, што зрабіць з ёю, возьме дый закінець яе ў кут, альбо калі гэтае штосьці музэальна—цэннае ёсьц дзеравам, ці жалезам, дык тады гаспадар зусім зьнішчыць яго прапаліўшы дзеравам у печы, а з жалеза зрабіўшы падкову, ці шворан. Гэтак ніколі ня можна рабіць, асабліва нам Беларусам. Мы павінны паказаць і даказаць сваю зацікаўленасьць да ўсяго, што знаходзіцца ў нас, альбо ў нетрах нашае зямелькі. Мы гэтае „ўсё," як тыя мурашкі, павінны сьцягваць у адну кучу, у свой Музэй у Вільні, каб потым гордзіцца сваім дабыткам. Вось гляньце ў Радавай Беларусі, дзесьці там у Гомельскай акрузе, знайшлі летась шкелеты штосьці, аж дванаццаці Мамутаў, зьвярын дапатопных, што жылі на нашай зямлі і прадстаўце, што гэта за здабытак, што гэта за багацьце. Каб прадаць яго, дык за тыя грошы можна-б было купіць усе Радзівілаўскія двары, якіх ён так шмат маець у нас. Другая рэч, што ў сяляніна, каб ён найшоў такую рэч, каб захаваў яе і потым паруліўся прадаць, дык які небудзь шмуклер даўбы за яе залатоўку, а пападзі гэта ў музэй, дык яе ніхто і не прадаваў-бы, а за адзін агляд меў-бы вялікую выручку, якою патым-бы падзяліўся са знаходцам. Дык сяляне і работнікі—землякопы, зьвяртайце ўвагу на ўсе знойдзеныя рэчы ў зямлі, цяпер у часы камасацыі гэтыя частыя выпадкі, і зараз-жа паведамляйце аб знаходзе Беларускі Музэй у Вільні, вул. Вострабрамская 9. Асабліва часта здараецца пры капаньні знайходзіць шкатулкі з даўнейшымі грашамі, найчасьцей меднымі, дык замест таго, каб тыя грошы, што знайходзяцца

ў шкатулцы, узяць разам з ею дый перадаць у свой Музэй, знаходца возьмець дый аддасьць іх дзецям. Гавару аб шкатулках, бо ў леташнім годзе сам меў магчымасьць быць сьведкам гэтага факту. Скамасаваная вёска, сяляне пачалі пераходзіць на хутары, ну і на хутарах у першую чаргу пачалі капаць студні. Адзін з гэтых капаючых знайшоў на глыбіні якіх колечы 3-х мэтраў гліняны горшчочак напоўнены меднымі манэтамі, ужо амаль зьедзянымі праз іржу. Заместа таго, каб гэта ўсё захаваць і адаслаць у музэй, гэты сялянін паразд аваў гэтыя старыя зношаныя, дый ня вартасныя для яго грошы, дзецям, а тыя гуляючы пагубілі іх. Даведаўшыся аб знаходзе я што сілы папёр у тую вёску, але ўжо было па часе, за тыдзень і тры дні ўсё паехала ў пясок і ў траву—так і згінула адна з музэальных рэдкасьцяў, але наўпярод нішто не павінна гэтак марна гінуць. Кожная знойдзена рэдкасьць павінна знайсьціся ў сваім Беларускім Музэі. Гэтулькі што да рэчаў, якія могуць быць знойдзеныя пры капаньні зямлі. Ня вылічываў усіх, бо ня спосаб і ўспомніць, хай кожны што знойдзе прыглядаецца да таго, што знайшоў, а колькі-ж рэчаў і памяткаў гістарычных ужо і этнаграфічных параскідана па куфэрках нашых гаспадыняў. У іх знойдуцца такія часамі рэчы, што і біблію Скарыны папярэдзяць. У аднэй знойдзецца якая колечы прастарая кніга, у якой ад дзядоў—прадзядоў хаваюцца разныя дакумэнты данае сям'і, як купчыя, квітанцыі, паперкі ад страхоўкі, дый і грошы а бадай нат больш сторублёвых расейскіх „кацярынак". Ляжыць сабе такая рэдкая кніга, дый хаваець дамовыя паперы, а ці-ж ня месца ёй у беларускім музэі. Апрача кніг у куфрах можна знайсьці моц другіх рэчаў музэальна рэдкіх. А колькі іх ужо ёсьць на падстрэшах у гаспадароў, дык і пералічыць трудна. Там знойдзецца і прастарыя рукою робляны прылады на зьвяроў, захованыя яшчэ з тых слаўных часоў, як па нашых драмучых лясох вадзілася розная зьвярына бяз ліку; розных хвігурак сьвятых, вырэзваных з дзерава і г. д. І ляжаць сабе гэтыя рэчы, трухлеюць, або і зусім гінуць беспаваротна. А ці-ж ня варга-б было ўзбагаціць імі свой Музэй. Трэба ведаць напрыклад, што сяньняшні музэй маець у сабе вялікую частку цэнных рэчаў, знойдзяных нябошчыкам закладчыкам—Іванам Луцкевічам, якраз на падстрэшах нашых сялян, ці двароў, ці зноў-жа прыходзкіх цэркваў і касьцёлаў. А ці-ж ён меў магчымасьць, адзін чалавек, дый заглядаць у кожную хату? Не, тут ужо мы самі павінны прыгледзіць усё—і ўсё знойдзенае прыслаць у свой Музэй. А тут ужо мы, як не цяжкае палажэньне нашага Музэю, дамо ім мейсца, захаваем старанна ўсё. А прыйдуць лепшыя часы для нас,—вылезем на сьвет божы, дык тагды і пакажам усяму сьвету сабраныя праз нас багацьці.

Дык да працы! — да збіраньня музэальных рэдкасьцяў!

*Міт.*

# Беларускае студэнства ў Варшаве.

Калі першы раз я ехаў у Варшаву, мне было жудасна пры думцы, што там, закінуты далёка ад родных хатаў беларускіх, ад загонаў нашых бедных, я буду адзін, што чакае мяне сумнае істнаваньне сярод чужых, няведамых мне па духу і настроях калегаў, што гутарка беларуская будзе для мяне адным лятуценьнем. Цяпер сьмяюся з сваіх наіўных прыпушчэньняў, бо знайшоў тут, чаго не спадзяваўся—спаткаць у Варшаве студэнтаў—беларусаў? Адкуль? З усіх краін нашай шырокай Заходняй Беларусі: Віленшчына, Наваградчына, Піншчына і Беласточчына маюць тут сваіх прадстаўнікоў, а адзін ёсьць навет з далёкай Латвіі. Што робяць? Сельская гаспадарка, праца на Палітэхніцы, вэтэрынарыя, прырода і матэматыка, нарэшце багаслоўе — прадметы іх навукі. Гэта ў гадзіны заняткаў, а ў вольныя хвіліны знаёмімся з жыцьцём беларускім і стараемся аб'яднаццаў адзіную арганізацыю, каб мець магчымасьць супольнымі сіламі дапамагаць сабе ў працы. Цяжка ідзе легалізацыя гуртка. Можа дзеля таго, што мала нас, а можа і таму што мы — беларусы?! Аднак не пакладаючы рук ідзем да пэўнай мэты: стварэньня Беларускага Студэнскага Саюзу ў Варшаве.

*Студэнт Беларус.*

# Агляд дзейнасьці Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні за 1929/30 год.

Апошні акадэмічны год у дзейнасьці Беларускага Студэнскага Саюзу быў нябывала цяжкім. Да агульных цяжкіх абставінаў, у якіх зьяўляецца ўсё беларускае студэнства ў Заходняй Беларусі, далучыліся яшчэ ўнутраныя непаразуменьні, выкліканыя групай безадказных сяброў — г. зв. „Паступоўцаў," каторыя кіруючыся вузка палітыканскімі мэтамі і вонкавымі інструкцыямі стараліся зрабіць з Беларускага Студэнскага Саюзу афэру сваей дзейнасьці. З гэтымі мэтамі былі выданы два нумары „Вольнае Думкі", якія былі перапоўнены ўсякага роду лаянкай і беспадстаўнымі закідамі проці тых, што ня йшлі з імі. Аднак умелая праца Ўраду і добрая воля большасьці сяброў Саюзу, кіраваная агульнаграмадзкімі інтарэсамі, змагла ўсё-ж такі ўнармаваць жыцьцё Саюзу, так што сяньня гэтая важная пляцоўка беларускага студэнства ў Вільні стала на добры і здаровы грунт.

Перадусім з мэтаю ўцягненьня большага ліку сяброў да працы былі створаны Ўрадам паасобныя сэкцыі, як: 1) літэратурна-навукова-краязнаўчая, 2) музыкальна-драматычная, 3) сэкцыя нясталых даходаў і ўрэшце незалежна ад гэтага—Рэдакцыйная Калегія „Студэнскае Думкі".

СЭКЦЫЯ ЛІТЭРАТУРНА-НАВУКОВА-КРАЯЗНАЎЧАЯ пад кіраўніцтвам к. Ст. Станкевіча найбольш выказала працы, а таксама зьвярнула на сябе асабліваю ўвагу сяброў. Сэкцыя зарганізавала аж 8 рэфэратаў з якіх 3 публічныя, чытаныя вылучна сябрамі Саюзу ды пры дапамозе Дырэкцыі Беларускае Гімназіі ў Вільні зарганізавала ўрачыстую Акадэмію з прычыны 10-ых угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча.

СЭКЦЫЯ МУЗЫКАЛЬНА-ДРАМАТЫЧНАЯ пад кіраўніцтвам к. С. Сарокі агранічыла сваю дзейнасьць да пастаноўкі аднаго спэктаклю і наладжаньня некулькі Канцэрт-Вечараў. Былі таксама сэкцыяй робленыя стараньні ў кірунку зарганізаваньня сталага студэнскага хору, аднак бяз вынікаў.

СЭКЦЫЯ НЯСТАЛЫХ ДАХОДАЎ пад кіраўніцтвам к. Т. Куніцкага займалася вылучна толькі раздаваньнем падпісных лістоў на збор ахвяраў на карысьць БСС., ды зьбіраньнем гэтых ахвяраў падчас вечарынаў і рэфэратаў БСС.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ „СТУДЭНСКАЕ ДУМКІ" на чале з к. М. Шкялёнкам, як рэдактарам, выдала адзін нумар „Студэнскае Думкі". Трэба прызнаць, што як выдавецкая, так і ўсякая іншая праца Саюзу куды шырэй магла-б разьвівацца, каб былі на гэта матэр'яльныя сродкі.

Даволі большую дзейнасьць удавалася вясьці ў кірунку матэр'яльнае дапамогі незаможным сябром Саюзу шляхам выдаваньня месячных стыдэндыяў і кароткатэрміновых пазыкаў. У гэтым з вялікаю помаччу Беларускаму Студэнскаму Саюзу прыйшло Беларускае Дабрадзейнае Таварыства ў Вільні, якое ў працягу ўсяго году асыгноўвала на карысьць Саюзу сталую месячную дапамогу.

БІБЛІЯТЭКА Б. С. С. у апошнім годзе таксама стала на добры грунт, дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву к. Н. Гаўрылічанкі. Для яе папаўненьня было Ўрадам закуплена ладне новых кніжак ды сабрана ахвярамі з некаторых беларускіх віленскіх выдавецтваў.

Найвялікшая можа дзейнасьць Саюзу праявілася ў яго вонкавай рэпрэзэнтацыі. Годна ўвагі, што Беларускі Студэнскі Саюз змог у сёлетнім годзе выслаць прадстаўнікоў, у складзе к.к. А. Бартуля і Ст. Станкевіча, на V зьезд „Аб'еднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў" („АБСА"), які адбыўся ў Празе Чэскай у студзені 1930 г. Гэтым між іншым Саюз праз сваіх прадстаўнікоў навязаў самыя цесныя адносіны з беларускім студэнствам у Чэхаславаччыне. Апрача таго Саюз супольна з студэнскімі Саюзамі Ліцьвіноў і Украінцаў, прыймаў у сябе сэкрэтара „Міжнароднай Студэнскай Помачы" („International Student Service") к. Паркэса, прыехаўшага ў Вільню ў справе нацыянальных студэнскіх меншасьцяў, які быў дакладна паінфармаваны аб стане беларускага студэнства ў Вільні.

Запачаткаваныя яшчэ тры гады таму назад прыяцельскія адносіны і сужыцьцё між студэнтамі Беларусамі, Ліцьвінамі і Украінцамі, у працягу апошняга году былі з тым большаю калежэнскасьцю прадаўжаныя далей. Было створана некулькі супольных гарбатак, некулькі супольных вечарынаў, а апрача

ўсяго быў наладжаны першы Рэпрэзэнтацыйны Беларуска - Літоўска-Украін. Канцэрт-Баль, ладжаны ў салях Гандлёва-Прамысловага Клюбу.

Трэба прызнаць, што калежэнскае сужыцьцё і супрацоўніцтва беларускага студэнства з студэнтамі Ліцьвінамі і Украінцамі ёсьць вельмі сымпатычным зьявішчам і цалком натуральным, таму натуральным, што студэнства гэтых трох народаў, належачых у Польшчы да нацыянальных меншасьцяў і як меншасьці трактаваных, павінна змагацца за свае ідэалы супольнымі сіламі, уяўляючы, што перамога адных ёсьць адначасна перамогаю ўсіх іншых.

# ХРОНІКА

## АГУЛЬНЫ ГАДВЫ СХОД СЯБРОЎ БСС.

Дня 11 траўня 1930 г. адбыўся Агульны Гадавы Сход Сяброў БСС. з даволі вялікім удзелам сяброў Саюзу. На старшыню Сходу быў абраны К. Я. Ермаковіч на Віцэ-Старшыню М. Зянюкова і на Сэкрэтара П. Шчасны.

Насамперш Сход прыступіў да разгляду справы трох завешаных сяброў у сяброўскіх правох і абавязках Саюзу. Веры Уласэвічанкі, М. Скурчанкі і Я Касяка, завешаных на аснове пэтыцыі большасьці сяброў Саюзу. На прапазыцыю Ўраду і Рэвізыйнае Камісі Сход вярнуў усім завешаным сяброўскія правы, прызнаючы дасюлешняе завешаньне выстарчаючай для іх карай.

Пасьля гэтага наступіла справаздача Ўраду і яго органаў, рэдактара „Студэнскае Думкі“, Рэвізыйнае Камісі і Кіраўніка Бібліятэкі, у выніку чаго на прапанову Рэвізыйнае Камісіі вынесена праз аклямацыі абсолюторыюм уступаючаму Ўраду. Адначасна Агульны Сход на прапанову Ўраду пастанавіў праз аклямацыі выразіць пісьменныя падзякі Беларускаму Дабрадзейнаму Таварыству, Дырэкцыі Віленскай Беларускай Гімназіі, Беларускаму Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і гр. А. Луцкевічу за ўсякія дабрадзействы, зробленыя імі для БСС.

Пасьля гэтага Сход пастанавіў прыняць унутраны рэгулямін Саюзу, да апрацаваньня якога дабраў Камісію ў складзе: К. Глінскага, Ст. Станкевіча, М. Шкялёнка і заступнікаў: А. Таранды і А. Бартуля.

На старшыню Ўраду БСС. праз аклямацыі абрана к. К. Глінскага; на Сяброў Ураду—к.к. С. Станкевіча, А. Бартуля, М. Зянюкову і З. Каўшанку; на заступнікаў—С. Сарску і А. Жураўлёва.

У Рэвізыйную Камісію абрана: На Старшыню М. Шкялёнка — праз аклямацыі і на сяброў—М. Тулейку і Н. Гаўрылічанку і на заступнікаў — А. Таранду і Ю. Кэпэля.

Наступнай справай сходу была справа ўваходу БСС. у склад Беларускага Нацыянальнага Камітэту, якая пасьля доўгіх дыскусыяў была большасьцю галасоў (проці 4-ох) адкінута.

Пасьля гэтага была вынесена

падзяка праз аклямацыі прафэсару Ст. Владычку за дасюлешняе куратарства над БСС. і запрошана яго быць куратарам БСС. на 30/31 год.

На рэдактара і кіраўніка Рэдакцыйнае Калегіі „Студэнскае Думкі" абрана праз аклямацыі к. Ст. Станкевіча.

З іншых справаў варта адзначыць пастанову сходу аб стварэньні Калежэнскага Суду Гонару, у склад сяброў каторага абрана к. к. Я. Ермаковіча, П. Шчаснага, Я. Клагіша, Я. Сеўрука, М Тулейку, І. Будзьчанку і С. Сароку, Апрача таго даручана Ўраду запрасіць усіх канчыўшых унірэрсытэт былых сяброў БСС. быць ганаровымі сябрамі БСС., а такжа пастаноўлена ў наступным годзе адсьвяткаваць 10-ыя ўгодкі існаваньня Б. С. С., што і даручана Ўраду.

## ПРОТЭСТАЦЫЙНАЯ ВЕЧА СУПРОЦЬ ПЕРАСЬЛЕДАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА РУХУ ў БССР

Апошнія хвалі перасьледаваньня беларускага руху праз бальшавіцкія ўлады ў БССР. знайшлі шчыры водклік і сярод беларускага студэнства ў Вільні. Канкрэтным гэтага выяўленьнем было праз ініцыятыўную камісію наладжана дня 18 сакавіка 1930 году протэстацыйнае веча беларускага студэнства. На вечы пасьля прамоваў к.к. А. Бартуля, С. Станкевіча, Я. Малецкага, С. Сарокі і інш. схарактэрызаваўшых тое немагчыма цяжкае палажэньне, якое перажывае беларускі народ у БССР, была аднагалосна прынята і абвешчана ў віленскай беларускай прэсе спэцыяльная рэзалюцыя.

## НАПАД ВІЛЕНСКІХ КАМСАМОЛЬЦАЎ НА БЕЛАРУСКІ СТУДЭНСКІ САЮЗ.

Дня 24 сакавіка 1930 г. падчас урачыстага паседжаньня БСС. з прычыны, дванаццатых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў памяшчэньне Саюзу ўварвалася таўпа камсамольцаў, кідаючы ў прысутных бутэлькамі з хімічнымі квасамі і каменьнямі. Паміма таго, што нападаючых было каля пару сотняў чалавек, прысутным усё-ж такі ўдалося выкінуць бандыцкіх камсамольцаў і прадаўжаць сьвяткаваньне далей. У выніку нападу быў ранены адзін студэнт, двух абліта ўспомненымі квасамі ды ганебна здэмалявана памешканьне і павыбіваны ў вокнах шыбы. Напад быў праўдападобна наладжаны ў адказ на вышуспомненае протэстацыйнае веча, супроць перасьледаваньня Беларусаў у БССР.

## СКЛАД УРАДУ БСС.

Новаабраны Ўрад БСС. на першым сваім паседжаньні паасобныя функцыі падзяліў гэтак: Старшыня—К. Глінскі, віцэ-старшыня— З. Каўшанка, сэкрэтар А. Бартуль, скарбнік—М. Зянюкова і вольны сябра—С. Станкевіч. заступнікі: С Сарока і А. Жураўлёў.

## СКЛАД РЭВІЗЫЙНАЕ КАМІСІІ Б. С. С.

Рэвізыйная Каміся Б С С. складаецца з М. Шкялёнка, як старшыні, М. Тулейкі і Н. Гаўрылічанкі як сяброў і А. Таранды і Ю. Кэпэля, як заступнікаў.

## СКЛАД РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ „СТУДЭНСКАЕ ДУМКІ“

Рэдакцыйная Калегія „Студэнскае Думкі“ ў сучасны мамэнт складаецца з С Станкевіча як— старшыні яе і Рэдактара і з М. Тулейкі і А. Бартуля—як сяброў.

## СКЛАД КАЛЯЖЭНСКАГА СУДУ ГОНАРУ.

Выбраны на Агульным Сходзе ў травені б. г. Каляжэнскі Суд Гонару складаецца з насгупных асоб: Я. Ермаковіча, П. Шчаснага, Я. Клапіша, Сяўрука, М. Тулейкі, І. Будзьчанкі і С. Сарокі.

## 10-ЫЯ ЎГОДКІ ЗАРГАНІЗАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНСКАГА САЮЗУ.

У наступным акадэмічным годзе прыпадаюць 10-ыя ўгодкі зарганізаваньня Бел. Студэнскага Саюзу, які паўстаў у 1920. г., але афіцыяльна быў зацьверджаны ў 1921 г. Гэтая важная для беларускага студэнства ў Вільні хвіліна будзе адзначана спэцыяльным сьвяткаваньнем.

## ШАПКІ СЯБРОЎ БСС.

У сакавіку б. г. былі ўведзены спэцыяльныя шапкі для сяброў БСС. Шапка круглае формы, з белага аксаміту, на версе залатыя літары „БСС.“ абведзяны залатымі каласамі, на абводзе бел-чырвона—белая стужка узятая ў траур. Такім чынам агульная кампазыцыя калёраў шапкі стылізавана на калёрах народна беларускіх.

## РЭФЭРАТЫ Ў Б.С.С.

Працягам рэфэратаў ладжаных БСС. у сёлетнім годзе, былі наступныя: 1) С. Станкевіч дня 1X-II-29— „Нашыя найбольшыя задачы“; 2) к. М. Шкялёнак дня 19-I-30.—„Аналіз народнае гаспадаркі Беларусі з пункту гледжаньня яе эканамічнае самастойнасьці“; 3) к. Ю. Саковіча дня 2—III—30 —„Аб пролетарскай культуры“; 4) к. Ст. Станкевіча дня 2—III—30—„Перасьледаваньне Беларусаў праз бальшавіцкія ўлады у БСС“; 5) к. М. Шкялёнка дня 9—III—30—„Народная гаспадарка Беларусі з пункту гледжаньня яе эканамічнай самавыстарчальнасьці“ (працяг). 6) кал. Ст. Станкевіча дня 24—III—30—„Расьвіцьцё беларускай незалежніцкай думкі“, ладжаны з прычыны прыпадаючых 12-ых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

## ГАРБАТКІ Б. С. С.

Дня 27—XI—29 адбылася гарбатка для сяброў Б. С. С. Дня 23—II—30 адбылася такая-ж гарбатка ладжаная студэнтамі Беларусамі, на якую між іншым былі запрошаны студэнты Літвіны і Украінцы.

## ВЕЧАРЫНЫ ў Б. С. С.

Апрача ўспомненых у №1 (12) „Студэнскае Думкі“ сёлета БСС. зрабіў яшчэ цэлы рад вечарынаў, з якіх некаторыя былі з канцэртамі.

## БЕЛ. УКР. ЛІТОЎСКІ СТУДЭНСКІ КАНЦЭРТ-БАЛЬ.

Дня 9—III—30 быў наладжаны Першы Гадавы Рэпрэзэнтацыйны Концэрт—Баль студэнтаў Беларусаў, Украінцаў і Літвіноў пад протэктаратам Я. М. Рэктара У. С. Б. — Д-ра Кс. Ч. Фалькоўскага. Канцэрт-Баль, дзякуючы добрай і ўмелай пастаноўцы, меў вялікі пасьпех.

## КОНФЭНЦЫЯ з к. І. ПАРКАСАМ.

Прыяжджаўшы сёлета ў Вільню ў справе нацыянальных меншасьцяў студэнтаў к. І. Паркэс — сэкрэтар Міжнароднай Студэнскай Помачы („International Student Service)“ дня 23—II—30 наведаў студэнтаў Беларусаў, дзе адбыў доўгую Канфэрэнцыю з прадстаўнікамі студэнтаў Беларусаў, Літвіноў і Украінцаў. К. І. Паркэс быў падробна паінфармаваны аб стане і палажэньні вышуспомненага студэнства. Пасьля Канфэрэнцыі к. І. Паркэс сфотаграфаваўся супольна з прадстаўнікамі студэнтаў Беларусаў, Літвіноў і Украінцаў, пасьля чаго быў прысутны на гарбатцы, ладжанай Б С С, на якой такжа былі прысутныя і студэнты Літвіны і Украінцы.

## ЗАПРОСІНЫ БЕЛАР. СТУДЭН. ДА ЎДЗЕЛУ Ў МІЖНАРОНДЫМ СТУДЭНСКІМ СПОРТОВЫМ ЗЬЛЁЦЕ.

Спартовая Камісія „CIE“ запрасіла беларускае студэнства да прыняцьця ўдзелу ў Міжнародным Студэнскім Спартыўным Зьлёце, ладжаным у Дармстадзе ад 1 да 10 жніўня 1930 г. Беларускае Студэнства з прычыны матар‘яльнае нястачы, здаецца, ў вышуспомненым спартовым зьлёце ўдзелу ня возьме.

## XII КАНГРЭС „C. I. E.“

У летку бягучага году адбудзецца ў Бруксэлі XII Кангрэс „C. I. E.“ („Міжраоднай Студэнскай Конфэдэрацыі“), на якім, як і ў прошлыя гады, возьме ўдзел і Беларускае Студэнства.

## САЮЗ СТУДЭНТАЎ НАРОДНІКАЎ ім. ФР. БАГУШЭВІЧА.

У бягучым годзе закладзена ў Вільні новая студэнская беларуская арганізацыя — „Саюз Студэнтаў Народнікаў ім. Фр. Багушэвіча“, — мэтаю якой ёсьць узгадаваньне сваіх сяброў у духу беларускай сялянскай ідэалёгіі. Паміма таго, што ўжо даўно зложаны у Унівэрсытэцкі Сэнат Статут, арганізацыя яшчэ незацьверджана.

## БЕЛАРУСКІ СТУДЭНСКІ САЮЗ У ВАРШАВЕ.

Студэнты Беларусы з высокіх школаў у Варшаве прыступілі сёлета да заснаваньня свае беларускае студэнскае арганізацыі. З гэтай мэтай ужо зложаны адпаведным уладам дзеля зацьвярджэньня Статут арганізацыі. Нашым Варшаўскім Калегам выражаем на гэтым мейсцы шчырыя пажаданьні ў арганізацыйнай працы на роднай беларускай ніве.

## УДЗЕЛ БЕЛ. СТУД. САЮЗУ НА V ЗЬЕЗДЗЕ „АЬСА“.

На V зьезд „АБСА“ („Аб‘еднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў“), які адбыўся ў студзені б. г. ў Празе Чэскай, ад Бел. Студэнскага Саюзу ў Вільні была выслана дэлегацыя ў складзе А. Бартуля і С. Станкевіча.

## ПЕРАНОС НЕКАТОРЫХ АДДЗЕЛАЎ „АБСА“ Ў ВІЛЬНЮ.

На V зьезьдзе „АБСА“ дзеля лепшае магчымасьці працы пастаноўлена некаторыя яго аддзелы перанесьці ў Вільню. Такім чынам перанесены аддзелы: прэсавы, кіраўніком каторага ёсьць А. Бартуль, эканамічны пад кіраўніцтвам С. Станкевіча і спартовы, пад кіраўніцтвам М. Шкялёнка. Аддзел Міжнародных

зносінаў разам з урадам пакінуты надалей у Празе Чэскай.

## ЛЕКТАРАТ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ НА ВІЛЕНСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ.

У пачатку другога трымэстру бягучага ўнівэрсытэцкага году на Гуманістычным факультэце Віленскага Унівэрсытэту быў адчынены лектарат беларускае мовы. Дл выкладаньня запрошаны др. Я. ятанкевіч. Лекцыі адбываюцца кожнае суботы ад 4 да 6 гадз. вечара. Таксама лектарат беларускае мовы ўжо тры гады існуе пры Варшаўскім Унівэрсытэце з тым-жа самым лектарам і на Інстытуце дасьледаваньня Ўсходняе Эўропы ў Вільні, гдзе выкладае гр. В. Грышкевіч.

## ПЯТЫЯ ЎГОДКІ ПАЭТЫЦКАЕ ТЬОРЧАСЬЦІ АЎГЕНЯ БАРТУЛЯ

У восені сёлятняга году прыпадаюць пятыя ўгодкі паэтыцкае творчасьці, сябры нашага Саюзу, цяперашняга сэкрэтара Ўраду, калегі Аўгеня Бартуля. Да гэтага вялікага для нас і для яго сьвята ўжо друкуецца зборнік яго найлепшых мастацкіх твораў. Зборнік займець каля 250 старонак друку.

## ПАВАРОТ БЕЛАРУСКІХ АКАДЭМІКАЎ З ПРАГІ

Апошнім часам вярнуліся з Прагі пасьля сканчэньня вышшых студыяў к. к. П. Орса і С. Бусел абодва з тытуламі інжынераў.

## САЮЗ СТУДЭНТАЎ ЛІТВІНОЎ У ВІЛЬНІ

Саюз Студэнтаў Літвіноў у Вільні быў заложаны ў 1926 г. і мае на мэце працу сярод сваіх сяброў культурна-навуковую і ў галіне самапомачы.

Час 1927-28 г. адзначаўся перадусім унутранаю дзейнасьцю шляхам ладжаньня сыстэматычных дыскусыйных зборак, рэфэратаў, літэратурных вечараў і інш. Была закладзена Біблятэка, якая сяньня налічае звыш 600 томаў. Апрача гэтага створана Каса Ўзаемнае Дапамогі і наагул вядзецца ў шырокім маштабе праца ўзаемнае дапамогі.

У 1928-29 г. апрача ўнутранай дзейнасьці вялася інтэнсыўная вонкавая праца, перадусім на грунце таварыскага зьліжэньня і супрацоўніцтва з студэнтамі Беларусамі і Украінцамі, вынікам чаго было супольнае выступленьне Студэнства трох успомненых нацыянальнасьцяў на Сходзе Братняе Помачы дня 9-V-1929 г.

1929-30 прынёс шмат новых усьпехаў у дзейнасьці Саюзу Студэнтаў Літвіноў. Была між іншым 1-XII-29 наладжана ў Салі Сьнядэцкіх У. С. Б. урачыстая Акадэмія з канцэртам, прысьвечаная 30- летнім угодкам сьмерці тварца літоўскага народнага гымну паэты Дра. В. Кудіркі.

Як працяг год назад распачатага супрацоўніцтва з студэнтамі Беларусамі і Украінцамі

быў наладжаны супольна з гэтымі Студэнтамі рэпрэзэнтацыйны Канцэрт-Баль, што было доказам блізкіх і прыяцельскіх адносінаў Студэнства трох успомненых народаў.

У далейшым заданьнем Саюзу Студэнтаў Літвіноў ёсьць апрача якнайшырэйшага зрэалізаваньня мэтаў, прадугледжаных у яго Статуце, так-жа далейшае контынуаваньне супрацоўніцтва з Студэнтамі Беларусамі і Украінцамі.

## САЮЗ СТУДЭНТАЎ УКРАІНЦАЎ У ВІЛЬНІ

Саюз Студэнтаў Украінцаў у

Вільні заклаўся ў 1928 г. пры учасьці 33 сяброў—Украінцаў, паходзячых з розных мясцовасьцяў Украіны, як Холмшчыны, Галіччыны, Валыні і інш. У першым годзе закладзінаў Саюзу паставілі сябры яго за мэту пазнаёміць іншыя нацыянальныя меншасьці з ідэяй і імкненьнямі украінскага народу, злучыцца з імі цесным вузлом на Віленскім грунце, у першую чаргу з Беларусамі і Літвінамі, якіх тут злучыла тая-ж самая доля. Праца ў першым годзе, з прычыны браку сілаў, не магла, як сьлед, разьвівацца. Затое ў наступным 1929 г. праца пайшла шыбчэйшым крокам і дала большыя рэзультаты. Між іншым Украінцы наладзілі канцэрт, каб у такі спосаб даць магчымасьць тутэйшаму грамадзянству пачуць зыкі украінскае песьні і пабачыць красу украінскіх народных танцаў. У наступным годзе Саюз Студэнтаў Украінцаў у сваей працы пайшоў далей наперад. Быў наладжаны супольна з студэнтамі Беларусамі і Літвінамі Канцэрт-Баль, некулькі гарбатак-вечарынаў, ды ўласнымі сіламі быў наладжаны традыцыйны Канцэрт, прысьвечаны Прароку Украінскага Народу — Тарасу Шэўчэнку. Праца Саюзу ўвенчылася вялікім пасьпехам, бо сяньня Саюз зьяўляецца цалком самастойным і не залежыць ад ніякіх дапамогаў іншых арганізацыяў. У прышласьці Саюз мае арганізаваць уласную самапомач, падваліны каторай ужо паложаны, бо ўжо сяньня Саюз мае ў уласным распараджэньні каля 900 зл. і поўнасьцю задавальняе патрэбы сваіх сяброў.

---

Новая карысная, патрэбная і даўно чаканая беларуская інстытуцыя ў Вільні—Цэнтральны Царкоўны Камітэт па Беларусізацыі Царквы ўжо зацьвердзіў свой статут і распачаў сваю дзейнасьць. Нашыя праваслаўныя сяляне павінны лічыць сваім абавязкам на кожным сваім кроку ў кожных пачынаньнях Цэнтральнага Камітэту па беларусізацыі Царквы, прыйсьці яму з дапамогаю. Бо царкоўнае пытаньне, гэта пытаньне нашае духовае і маральнае незалежнасьці ад чужацкіх уплываў; рэлігія павінна быць нашаю і Царква павінна быць нашаю. Гэтакі самы камітэт паўстаў у Вільні і па беларусізацыі рымска-каталіцкага касьцёлу, паўстаў ён са зьезду каталікоў Беларусаў і Літвіноў, які адбыўся ў Вільні 4 траўня г. г. гэты камітэт маець бараніць касьцёл на нашых землях ад палітычных уплываў польскага духавенства.

---

# ЗЬМЕСТ — Inhalt

1. Мы ў перамогу верым ўсе...(верш).—А Б. стар. 1.
**Wir glauben alle zu überwinden. .(Gedicht) A. B.**
2. Праз грамадзкую працу да будучыні—С. Каліна. 2.
**Durch soziale Arbeit zu der Zukunft – S. Kalina.**
Autor analisiert in diesem Artikel die wesentliche Lage im Weissruthenischen

sozialen Leben und indem er die nahe Zukunft im Aussicht hat, wenn die neue Generation in der sozialen Arbeit leiten wird, welche aus der gegenwärtigen weissruthenischen Studentenschaft rekrutieren wird, stellt er vor die Augen der weissruthenischen studentlichen Jugend folgende Bedingungen, welche sie jetzt ausführen soll, um sich gegenmässig für die Arbeit in der Zukunft zu vorbereiten:

Die Hauptbedingung ist weite soziale Bildung, damit der weissruthenische Student, Universität schon verlassend ein öffentlicher Arbeiter sei, im echten Sinn dieses Wortes. Deswegen soll unter der weissruthenischen Studentenschaft Einigkeit und Kooperation in der Arbeit herrschen. Man muss bilden in sich selbst weites Gefühl der Verpflichtung für sein Volk in allen Gebieten zu arbeiten.

In Bildung seiner Ideologie, der weissruthenische Student soll sich unmittelbar zu den Volksmassen neigen und dann wird auch seine Idee lebendig sein.

Trotz den grossen Schwierigkeiten und Hindernissen die weissruthenische Studentenschaft soll viel auf das internationale Arbeitsfeld achten, um weite Kontakten mit fremden Studenten anzuknüpfen.

Die Hauptidee weissruthenischen Studentenschaft, so wie alles Volkes, ist die Erreichung der stätlichen Unabhängigkeit. die idée, welche heute schon in der Strebungen und Ansichten des weissruthenischen Völkes absolut nötig ist.

## 13. Да 5-ых угодкаў „АБСА“—В-іч. стар. 5.

### 5 Jahre seit der Gründung „ABSA“. — W-ič.

n diesem Jahre ist es 5 Jahre seit das Nationale Union der Weisruthenischen Studentenschaft gegründet wurde — „Abjednańnie Biełaruskich Studenskich Arhanizacyjaŭ („ABSA“), — welches entstand im Prag im Jahre 1924 und arbeitetè hauptsächlich in der Richtung der Repräsentation, indem es in verschiedenen Studenten Arbeiten teilnahm.

Vom Jahre 1926 ist „ABSA“ ein Mitglied von C.I.E. geworden, nimmt nach Möglichkeit Anteil in seinen Konferenzen. Die Konferenzen von „ABSA“ finden jedes Jahr im Prag statt. Dieses Jahr wurde die Konferenz von „ABSA“ im Januar 1930 gehalten. Hier wurde es entschlossen unter anderem folgende Abteile von Prag nach Wilno überzutragen: Ekonomische, Presse und Sport Abteilung, indem das Zentralbiuro, General Sekretariat und Internationale Abteilung weiter im Prag blieben.

Das gegenwärtige Presidium „ABSA“ besteht aus: W. Lawski — Präsident, T. Hryb—Vice-Präsident, A. Vituschko—Leiter der Internationalen Abteilung, L. Girys—Sekretär, welche alle im Prag leben, und E. Bartul—Vice-Präsident, Leiter der Presse Abteilung, St. Stankievitsch—Leiter der ekonomischen Abteilung und M. Skielonak—Leiter der Sportabteilung, welche in Wilno leben.

## 4. „C.I.E.“ і ўдзел у ім беларускага студэнства—Ст. Станкевіч. стар. 7.

### „CIE“ und Teilnahme darin der Weissruthenischen Studentenschaft—St. Stankiewitsch.

Nach der historischen Skizze von „CIE“ Autor schildert Teilnahme der weissruthenischen Studenten in dieser Weltbekannten Studentenorganisation. Man muss unterzeichnen, dass die Arbeit der Weissruthenischen Studentenschaft in „CIE“ infolge ihrer schwären Lage, als Sohnen des Volkes ohne normalen Bedingungen der Entwickelung und geteiltes unter den mächtigen dieser Welt, konnte nicht solche Resultate haben, wie es wirklich sein sollte.

Zum erstenmal hat der Weissruthenischen Studenten Verein seine Delegaten zum VII-en Kongress vom „CIE“ im Jahre 1925 nach Warschau geschickt, aber die Bitte der Weissruthenen in „CIE“ eingenommen zu werden, werde abgeschlagen.

Im Jahre 1926 bei VIII Kongress von „CIE“ in Prag, nach vielen Strebungen wurden die Weissruthenen einstimmig als Mitglied in „CIE.“ eingenommen. Im nächsten Jahr nahmen die Weissruthenischen Studenten, als Mitglied, am IX-en Kongress von „CIE.“ im Rom teil. Von Mangel an materielle Mittel konnte nicht die weissruthenische Delegation nach Paris fahren, wo der X Kongress von „CIE.“ stattfand; sie hatten aber dort doch einen Vertreter.

Zum XI Kongress von „CIE.“, welcher in Budapest gehalten wurde, schickte man eine zahlreiche Delegation, aber die Ungarischen Ämte wegen ihrer engen politischen

Zielen gaben keinem von den Weissruthenen Wisa auf Pasport und darum waren keine Weissruthenen beim Kongress anwesend.

In diesem Jahre wird der Kongress in Bruxel stattfinden, und die weissruthenische Studentenschaft macht schon notige Vorbereitungen, um sich dort gut zu represäntieren.

5. Сны (Імпрэсыя)—А. Бартуль. Стар. 11.
Traüme—(Impresie)— A. Bartul.
6. Хваляваньне — (верш) — М. Тулейка. Стар. 11.
Wellengewitter –(Gedicht)—M. Tulejka.
7. Размроеным крокам—(верш)—А. Бартуль. Стар. 12.
Mit einem träumerischen Schritt (Gedicht)—A. Bartul.
8. Струны—(верш)—М. Тулейка Стар. 13.
Die Saiten—(Gedicht) M. Tulejka.
9. Проба аналізы народнае гаспадаркі Беларусі з пункту гледжаньня яе эканамічнае самавыстарчальнасьці — М. Шкелёнак. Стар. 15.
Probe der Analyse der nationalen Wirtschaft in Weissruthenia von Ausicht ihre ekonomische Befriedigunge—M. Skielonak.

Indem Autor die nationale Wirtschaft von Weissruthenia in ihrer ethnographischen Grenzen analisiert, dieses Thema beschränkt er auf die Landbearbeitung. Mit Landbearbeitung beschäftigt sich in Weissruthenia 75% Inwohner. Die Oualität der Erde in Weissruthenia ist ziemlich gut und näht der Qualität im Deutschland.

Es stehen viele Hindernisse im Weg, um die Landbearbeitum zum höhere Grad zu bringen, z. B nicht genügende und ungünstige für die Bauern ist Realisierung der Landreform, nicht rationale Weise der Landbereitung, Mangel am nötigsten Kapital u. s.w. Wenn die wirtschaftliche Politik in unseren Lande günstig und einig sein wird, Weissruthenia wäre auch von der ekonomische Seite ganz befriedigend

10. Рэфлексыі—М. Тулейка. Стар. 23.
Reflexien—M. Tulejka.
11. Шануйма народныя вартасьці—Ст. Станкевіч. Стар. 26.
Achten wir die nationale Schätze—St. Stankiewitsch
12. Пару слоў аб Музэі Беларускага Навуковага Таварыства ім. ім. Івана Луцкевіча ў Вільні, стар. 28.
Einige Wörter von dem Museum der Weissruthenchen Wissenschaftlichen Gesellschaft in Wilno—Mit.
13. Беларускае Студэнства ў Варшаве—Студэнт Беларус. стар. 31.
Die Weissruthenische Studentenschaft in Warschuau — Weissruthenischer Student.
14. Агляд дзейнасьці Беларускага Студэнскага Саюзу ў ільні за 1929—30 г. стар. 31.
Übersicht der Tätigkeit des weissruthenischen Studenten Union in Wilno für 1939—30 Jahr.
15. Хроніка. стар. 33.
Chronik.

Рэд.-Выд. СТ. СТАНКЕВІЧ. Друкарня У. Знамяроўскога. Вільня, Сьнятовы зав. 8.
Надрукована у друкарні „ZOZRA“, Віленская 15.

# Беларускія Каапэратыўныя Курсы цераз карэспандэнцыю.

Беларускі Студэнскі Саюз на восень сёлетняга году праектуець адчыніць: „Беларускія Каапэратыўныя Курсы цераз карэспандэнцыю“, якія будуць абыймаць сабою ўсе веды з галіны каапэрацыі, як: гістарычную, статыстычную, тэорэтычную, практычную і бугальтэрыю. Мэтаю курсаў будзе прыгатаваньне ідэёвых і фаховых кіраўнікоў спажывецкіх каапэратываў на мяйсцох. У будучыні ўсе нашыя вёскі павінны мець па колькі такіх кіраўнікоў, бо ў каапэрацыі нашая *будучыня*, нашая эканамічная незалежнасьць. Курсы будуць трываць 10 месяцаў, у працягу якіх кожан вучань будзе атрымліваць што тыдзень новую лекцыю, па вывучэньню і ахапленьню якое мусіць будзе напісаць і перасланць да кіраўніцтва курсаў пісьменнае апрацаваньне на тэмы з данае лекцыі прыложаныя ў яе канцы. Па здавальняючым адказе на ўсе лекцыі, кожын вучань атрымаець пасьведчаньне даючае яму пяршынство ў заняцьці мейсца кіраўніка спажывецкага каапэратыву. Хто маець ахвоту і пачуваецца да абавязку скончэньня гэтых курсаў, пазнаньне гэтакае пекнае навукі, як каапэрацыя, ужо цяпер пісьменна павінен паведаміць нас, прысылаючы нам адказ на такія пытаньні: 1) імя і прозьвішча, 2) месца сталага жыцьця, 3) колькі год, 4) якая адукацыя (на курсы будуць прыймацца асобы кончыўшыя найменяй 3 аддзелы школы паўшэхнае), 5) ці цікавіцца каапэрацыяю і ці знаёмы ўжо з ёю трохі; па адрасу Wilno, ul. Wileńska 8—3. Białoruski Związek Akademicki. Аб часе распачацьця навукі ўсе зарэгістраваныя асобы будуць павядомляны ў восяні паасобна. Аплаты за навуку, па за зваротам коштаў на паперу, на друк і на карэспадэнцыю, ня будзе жаднае.

